Levi's

# Новая калекцыя






Фірмовая крама Levi's

Пр. Ф. Скарыны, 48


KIKO INTERNATIONAL Ltd

Афіцыйны дылер Levi Strauss & Co у Рэспубліцы Беларусь тэл.: (017) 213-45-62

Design: A. Provalinskiy

Ліц. № 2617 ад 27.12.1994 г. сапр. да 2004 г.

# EXTRA
WEAR AND BOOTS

Ліц. №20910 ад 20.01.2001



#1). г.Менск, вул.Танкавая, 3

#2). г.Менск, пр.Скарыны, 43
(у музычнай краме "ПОДЗЕМКА")
тэл.: 213 40 36

АФІЦЫЙНЫ ДЫЛЕР VELCOM
ГЛОБАЛКОМ
УСЯЛЯКІЯ ТЭЛЕФОНЫ GSM.
ПРОДАЖ і ПАДКЛЮЧЭНЬНЕ

[Сувязь Усталяваная]



тэл. 223 11 41
8 029 623 11 41

Менск. Цэнтар. Мэтро Кастрычніцкая/Купалаўская, пл. Свабоды 4



**Студэнцкая думка № 2 (74) 2002 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
Выдавец: рэдакцыя "Студэнцкай думкі"

**Галоўны рэдактар**
Ірына Віданава
**Рэдактары**
Мікола Шакель &
Сяргей Сахараў
**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка
**Дызайн, вёрстка й афармленьне**
Уладзімер Пакацілаў

**Мадэль на вокладцы**
Марыя Ліцьвіненка
"METROPOLITAN MODEL AGENCY"

**Адрэса рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
Тэлефон рэдакцыі: (017) 213-22-19
Пэйджэр : 206-75-75, абанэнт 1823
Адрэса для допісаў: 220030, г. Менск 30, п/с 90
**Адрэса ў Інтэрнэце:**
www.studumka.com
**E-mail:** studumka@tut.by

Часопіс выходзіць з 1924 г.
Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь.
Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.
Меркаваньні аўтараў часопісу не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за розната кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.
Правамі на матэрыялы валодае рэдакцыя часопісу "Студэнцкая думка".
Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка абавязковая.
Тэксты, якія не замаўляліся, рэдакцыя не вяртае.

Надрукавана ў ТАА "Палікрафт", 220113, г. Менск, Я.Коласа, 73.
Ліцэнзія ЛП № 394.
Фармат 60х84 1/8
Папера афсэтная 80 г/м2
Падпісана ў друк __________
Замова № ______________
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны.


Лэдзі і джэнтэльмэны! Нарэшце ўсе забралы адкрытыя! Адкладзіце латы і харугвы ўбок і адвядзіце коней у стайню - тэхнічны прагрэс зрабіў сваю чорную справу. Амэрыканскія навукоўцы выдалі жанчынам індульгенцыю, паводле якой зараз можна мець дзяцей без "самога працэсу". Дастаткова толькі граматна змадуляваць клеткі і іншыя мікраскладнікі жаночага арганізму, каб атрымаць "дзіця без мужчыны".

Інакш, яны могуць жыць бяз нас, а мы - бязь іх.

Паставімся да такога павароту падзеяў па-філязофску. Падаецца, гэта ўсяго толькі афіцыйнае адкрыцьцё Другога фронту ў бясконцых ваенных дзеяньнях паміж адвечнымі супраціўнікамі - **"Male" // "Female".**

А таму, не адрозьніваючыся арыгінальнасьцю, мы вырашылі вынесьці ў якасьці тэмы нумару менавіта пазначаную вышэй формулу. Магчыма, у фармат CD упісаліся б артыкулы кшталту "Што і як падарыць партнэру на 23 лютага, каб дачакацца ад яго падарунку на 8 сакавіка", але...

Своеасаблівай інструкцыяй могуць стаць матэрыялы Яна Міхевіча і V.O., у якіх тыя спрабуюць прааналізаваць, што ж пра нас, мужчын / жанчын, могуць думаць жанчыны / мужчыны адпаведна.

Нягледзячы на любыя закідоны, беларускім поп-зоркам яўна імпануе магчымасьць пабыць у абалонцы ворага. "Кім бы хацелі быць, калі б нарадзіліся прадстаўніком супрацьлеглага полу?" - сакрамэнтальныя адказы знакамітасьцяў на гэтае пытаньне.

Гісторыя беларускіх андрагінаў і сучаснасьць менскіх травэсты ў матэрыялах Ігара Ліка і Ўлада Ўрзава ніяк ня зьменіцца ад таго, што побач апынецца простая фэміністка, урыўкі зь інтымнага дзёньніку якой шукайце тут жа.

Пра астатняе - у зьмесьце.

## WWW.STUDUMKA.COM
### Самая слушная думка ў нэце!

**Набываючы часопіс "CD", патрабуйце дысконтную карту INTERCARS. Па ёй вы атрымаеце зьніжкі на квіткі "INTERCARS" - у дадатак да тых зьніжак, якія ўжо існуюць.**

**У гэтых месцах "Студэнцкая Думка" раздаецца бясплатна:**

- аўтобусы "INTERCARS" і офіс "INTERCARS" (Менск, пр. Машэрава, 19, оф. 1-6)
- крама "LEVI'S" (Менск, пр. Скарыны, 48)
- крама "ПОДЗЕМКА" (Менск, пр. Скарыны, 43)
- крама "EXTRA" (Менск, вул. Танкавая, 3)
- крама "БУНКЕР" (Менск, вул. Казлова, 14)
- крама "CAMELOT" (Менск, пр. Скарыны, 44)

6 30 26 32 28 36 18











ПОДГОТОВКА К ИНТЕРВЬЮ ИНДИВ ДЬНО
ДЛЯ КАЖДОГО В МОДЕРНИЗИРОВАННЫХ

[redacted]
КУРИТЬ!
ТЫ ШТО, БЛЯ, ДУРАК?
Я В КИНО ВИДЕЛ.
ПАШЛИ Я ЗНАЮ ГДЕ РАСТЁТ
ВОН ГЛИДИ СКОЛЬКО
А ШТО АТ БУДЕТ?








16

СТYDЭН[...] DYМКА
№1/2002

intercars
KIKO INTERNATIONAL Ltd
Levi's
EXTRA
CAMELOT
Step by Step
Countdown
АльВеНа
АлВит
ELITE

METROPOLITAN MODEL AGENCY
часопіс & СТYDЭНЦКАЯ DYМКА
абвяшчаюць конкурс
# CD-MODEL'2002
Адмыслова для дзяўчат!

Трэба толькі патэлефанаваць (017) 226-98-24 альбо даслаць сваё фота (ці відэа) на адрэсу: 220004, Менск, пр. Машэрава, 19, оф. 21-22, і ты - у Парыжы

## Умовы:

·узрост: 15-23 гады
·рост: 172 см і вышэй
·ніякай спэцпадрыхтоўкі ня трэба!
·гэта датычыцца і прафэсійных мадэляў, і тых, хто толькі марыць пра такую кар'еру

**Тэрмін падачы заявак на ўдзел - да 30 красавіка**

Не забудзьцеся пакінуць свой зваротны адрас

**Пераможцу чакаюць:**

- стажыроўка і фотаспробы ў Парыжы - у сусьветна вядомай мадэльнай агенцыі METROPOLITAN MODEL AGENCY
- прызы ад спонсараў
- камфортны пералёт у Парыж
- і назад на аўтобусе INTERCARS

**Удзельніцы атрымаюць:**

- прыемныя сувэніры
- шанец трапіць у базу дадзеных METROPOLITAN MODEL AGENCY

**За ходам падзеяў сачыце ў часопісе.**



# Конкурс "CD-MODEL'2002" прызы і бонусы

**Што самае галоўнае ў любым конкурсе? Вядома ж, прызы. Што датычыцца "CD-MODEL'2002", то тут сытуацыя выглядае вельмі прыемна. Удзельніц - і, вядома, пераможцу - чакае вялізная куча прызоў плюс тоўстая торба іншых прыемнасьцяў. Усё пералічанае ніжэй можаш атрымаць ТЫ.**

Фірма **"INTERCARS"** (Менск, пр. Машэрава, 19, каб. 1-6, т.226-93-05, 226-97-80) прэзэнтуе квіток "Менск-Парыж-Менск" для пераможцы крнкурсу.

Выставачны цэнтар **"Олимп"** (Менск, вул.Я.Коласа, 3, т.239-33-35) дорыць набор касмэтыкі.

Страхавая кампанія **"АльВеНа"** (Менск, пр.Скарыны, 39, т.284-82-16; вул.Маякоўскага, 14, т.210-28-36; пр.Скарыны, 164, т.202-91-38) страхуе пераможцу.

У краме **"LEVI'S"** (Менск, пр.Скарыны, 48, т.213-45-62) адбудуцца здымкі пераможцы.

УП **"Элита-Сервис"** (Менск, пр.Машэрава, 75, к.1, т.250-29-55, 250-26-39) прэзэнтуе паслугі цырульніка і візажыста.

Курсы **"Step by step"** (Менск, вул.Калініна, 6, т.266-24-09) прапануюць пераможцы 20 гадзін заняткаў замежнай мовай.

Крама **"EXTRA"** (Менск, вул.Танкавая, 3), а таксама крама **"Подземка"** (пр.Скарыны, 43, т.213-40-36) прэзэнтуюць модныя нагавіцы альбо спадніцу - на выбар.

Крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44, т.284-30-14) прапануе абутак.

**"ДанКард-БР"**, афіцыйны прадстаўнік брытанскай кампаніі **"Countdown SA Ltd"** (Менск, вул.Чычэрына, 19, оф.204, т./факс 239-42-78) прэзэнтуе дысконтную карту "Countdown" (сыстэма зьніжак).

Інфармацыйная падтрымка конкурсу - рэклямнае аб'яднаньне **"АлВит"** (Менск, вул.Чкалава, 38, корп. 1, т./факс 222-58-02).

Усіх удзельніц конкурсу чакаюць сувэніры ад **Metropolitan Model Agency** - майкі, асадкі, календары і г.д. Да таго ж, ты маеш рэальны шанец трапіць у базу дадзеных Metropolitan Model Agency, а значыць, заявіць пра сябе ў мадэльным бізнэсе.

**Адказваем на пытаньні, якія найчасьцей задаюць па тэлефоне:**

- Ніякіх фінансавых укладаньняў ад удзельніц конкурсу не патрабуецца - баксы з панчохі даставаць не давядзецца.
- Ніякай спэцыяльнай мадэльна-дэфілейнай падрыхтоўкі ня трэба.
- Пакінь замарочкі пра 90x60x90. Усе дыеты і шэйпінгі - потым. А зараз - проста тэлефануй і прыходзь. Убачымся!



# СТЭРЭАТЫПНЫ МУЖЧЫНА

## ЯКіМі НАС У іДЭАЛЕ ЎЯЎЛЯЮЦЬ ЖАНЧЫНЫ

*Ян Міхевіч*

**Абутак мусіць быць начышчаны**
**Нармальнаму пацану, які сутыкаецца тэт-а-тэт з уласнымі чаравікамі толькі зранку і позна ўвечары, цяжка зразумець гэты жаночы пункцік. А ўсё элемэнтарна! Як заўважыў францускі псыхааналітык Гастон Башляр, калі чалавек нешта ўпарта чысьціць, адмывае, прыбірае і робіць гэта з маніякальнай апантанасьцю, сушыце вёслы - індывід яўна зьехаў на сэксе і прагне якраз бруднага інтыму. Іншая справа, якая жанчына раскрые нам уласныя мроі?**

### Ад мужыка павінна прыемна пахнуць

Пот. Банальна ліпкі, сьмярдзючы пот і нічога іншага - вось сапраўдны мужчынскі пах. Менавіта ён прыцягвае жанчынаў. Ім не падабаецца? Ціпа. Чаму, ты думаеш, парфумэры выбіраюць такія інгрэдыенты для мужчынскіх адэкалёнаў і дэзікаў, якія яўна імітуюць пахі, што выдзяляюцца залозамі жывёлаў, у тым ліку потавымі? Толькі рэзкі пах поту, як бы жанчыны ні супраціўляліся, можа іх прыцягнуць.
Пацейце на здароўе, пацаны!

### Стройны і мускулісты "здаровы" рыцар

Ня ўсё так адназначна.
Палове жанчынаў падабаюцца "сапраўдныя мужыкі" з памерам шыі, роўным галаве, і такім жа самым аб'ёмам біцэпсу. Многія жанкі, калі ўбачаць большы за 50-ты памер у плячох, таюць і гатовыя пачаць адносіны з такімі суб'ектамі на роўным месцы. Для мужчынаў праблема адно ў тым, што надзьмуць сябе да такой кандыцыі здольныя толькі 2% самых "адораных".
Другая палова жанок прытрымліваецца прынцыпу: чым болей вытанчаная "фактура", тым лепей. Адназначна, адносіны з субтыламі - прэрагатыва эстэтак ("ня целам, дык душой") і дурніцаў, якія патаемна мараць пра якога-небудзь Джоні Дэпа ў якасьці палюбоўніка.
Гэта сьмешна, але "нездаровай" камплекцыі хлопцы напаверку аказваюцца "здаровымі гігантамі" сэксу ("люстраны" стэрэатып як вынік пераварочваньня старога стэрэатыпу пра "здаравякоў", якія нібыта зьяўляюцца такімі ж і ў ложку). Таму без гістэрыкі стаўся да сваіх лапатак, што тырчаць як крылы падбітага анёла.
Адзінае што - падкачай прэс і... азадак: ад круглай попкі жанчыны сапраўды заводзяцца.

### Валасатыя ногі - гэта так вульгарна!

А калі ўзгадаць, што празьмерная валасатасьць - прыкмета нямеранай наяўнасьці ў арганізме мужчынскіх (чытай - самцовых) гармонаў? Патаемна жанчыны ацэньваюць нас як магчымых партнэраў па трох рэчах: па носе, па руках і па валасатасьці. Вядома, ня вельмі прыемна глядзець на шчэлку густых валасоў з-пад задзёртых нагавіцаў, але такім чынам прырода сыгналізуе жанчыне: "З гэтым нешта (нехта) атрымаецца". Таму забудзься на эпіляцыю, дзядзька!

### Павязаны ГАЛЬШТУК - першая прыкмета заможнасьці партнэра

Адназначна: гальштук ёсьць фалічным сымбалем, на які клюе любая слабая "палоўка". Сакрушальны ўдар па гэтым стэрэатыпе ты можаш нанесьці, калі падбярэш гальштук ня ў тон. Тады гамон.
Хочаш падбіцца да якой-небудзь мадам - уважліва прачытай у модных часопісах, як сёньня павязваюць гальштукі лёнданскія дэндзі. Будзь упэўнены, прасунутыя беларускі зацэняць твой бездакорны густ.

### Чыстыя, стыльныя і ў тон нагавіцам шкарпэткі

Я б пераставіў акцэнты. Пазасьвядома дамы, калі глядзяць на твае шкарпэткі, уяўляюць, які сьмешны і сэксуальны ты будзеш, калі застанесься толькі ў гэтай бялізьне. На іх думку, гэта так пікантна...
Твая мэта - зрабіць так, каб выпадкова не апрануць закароткія нагавіцы. І другое: запомні, ніякіх белых шкарпэтак, асабліва пад сандалеты - ня будзь калхазанам!

### Акуляры робяць мужчыну такім безабаронным

Супэр, гэтым актыўна і карыстайся! Мы лічым, што мужчына ў акулярах выглядае разумнейшым. Лухта: розум - не апошняя характарыстыка мужчыны ў жаночых вачох. Твая здольнасьць быць у патрэбны момант дзіцем - вось што зацэніць будучая маці!
Ня бойся здымаць акуляры і выглядаць перад ёй сьляпым ідыётам: большасьць жанчынаў захоча сагрэць і прыгалубіць такога небараку (для нас галоўнае, каб да сябе прыхіліла, а там давесьці кліента да кандыцыі - справа тэхнікі).

### IQ

Дыхай спакайней - усё залежыць ад жанчыны. Тупіш - тады дэманструй мужнасьць, праблемы зь целам - бяры інтэлектам. Але запомні, што жанчыны любяць, калі іх: а) уважліва слухаюць (утаропся ёй у твар ды спагадліва ківай), б) весяляць (тупыя жарты звычайна праходзяць - будзь здароў). Пакажы ёй, што вы сябры - і яна твая!



# М&Ж. Кампаратывістыка

ТЭМА

**Адрозьненьні між поламі не абмяжоўваюцца зьнешнімі першасна-другаснымі прыкметамі. Дыфэрэнцыяцыя на М- і Ж-прадстаўнікоў мае глыбока канцэптуальны характар. Сыстэма прадуманая да дробязяў, і ў выпадку збояў здольная самааднаўляцца, падтрымліваць закладзены ад пачатку status quo. Мімаволі задумаесься пра Вышэйшы Розум...**

Кітайцы ўпэўненыя, што ўзаемаабумоўленыя пачаткі - жаночы (Інь) і мужчынскі (Янь) - зьяўляюцца рухавіком усіх прыродных працэсаў. Гэта - адвечныя супернікі, якія адначасова ня могуць існаваць паасобку. У кожным Інь закладзены Янь, і наадварот. У кожным арганізме падтрымліваецца пастаянная біялягічная раўнавага энэргіі, дзякуючы ейнаму разьмеркаваньню паміж органамі Інь (халодная энэргія Месяца) і Янь (гарачая энэргія Сонца).

У любімых намі пчолак толькі адна, вялікая, што завецца Матка, мае гонар адкладаць яйкі. Рабочыя пчолы сочаць за парадкам, за захаваньнем і разьвіцьцём яйкаў, даглядаюць лічынак, будуюць соты і г.д., а самцы выконваюць сваё адзінае генэтычнае прызначэньне - апладняюць самку. Таму і клічуць іх Трутнямі.

У жывёлаў самкі маюць больш сьціплае ўбраньне ў параўнаньні з самцамі. Прырода абараняе жаночы пол з дапамогаю прыстасавальнай афарбоўкі й мімікрыі.

У чалавека на 100 нованароджаных дзяўчатак прыпадае прыблізна 106 хлопчыкаў. Але да 20-цігадовага ўзросту прапорцыя полаў становіцца роўнаю - 1:1.

Эвалюцыйныяператварэньні закраналі перш за ўсё мужчынскі пол, які зьяўляўся "пробным варыянтам" для новых прыкмет. Мужчыны на сабе апрабоўвалі новыя якасьці. Калі новыя рысы аказваліся адаптыўнымі і генэтычна дэтэрмінаванымі, яны пашыраліся ва ўсёй папуляцыі. У процілеглым выпадку іхны ўладальнік проста гінуў. Жаночы ж пол рэалізуе генэтычную функцыю па захаваньні нязьменных прыкметаў папуляцыі. Жанчыны больш адаптыўныя да зьменаў умоваў жыцьця.

Існуюць распрацоўкі па праектаваньні будучага полу дзіцяці. Вось што прапануе калмыцкая народная мэдыцына. Неабходна вызначыць узрост бацькоў у гадах, месяцах і днях на момант зачатку дзіцяці і падсумаваць лічбы гадоў, месяцаў і дзён. Вынік у бацькі падзяліць на 4, у маці - на 3. Пасьля параўнаць атрыманы дроб: пол будучага дзіцяці супадзе з полам таго з бацькоў, чый дроб будзе большы. Спэцыялісты кажуць, што ў 99% выпадкаў мэтодыка спрацоўвае.

На працягу першых шасьці тыдняў чалавечы эмбрыён у матчыным чэраве бясполы. Зачаткі мужчынскіх і жаночых полавых органаў у зародкаў аднолькавыя.

Сьмяротнасьць хлопчыкаў у момант нараджэньня вышэйшая за сьмяротнасьць дзяўчатак: хлопчыкі маюць большыя памеры цела.

Большасьць інфэкцыйных хваробаў (акрамя каклюша й ганарэі) выклікае павышаную сьмяротнасьць менавіта сярод мужчынаў.

Прырода паводзіць сябе мудра, зьберагаючы "залатое ядро" папуляцыі - жанчынаў, прадаўжальніц роду. А мужчыны, больш рызыкоўныя і з прытупленым інстынктам самазахаваньня, расплочваюцца за гэта больш раньнімі сьмерцямі.

Чалавек у працэсе эвалюцыі страціў некаторыя асаблівасьці сэксуальных паводзінаў. Напрыклад, самец ніводнага зь відаў жывёлаў ніколі ня гвалціць самку: у прыродзе гэта выключна добраахвотны для абодвух бакоў акт. У чалавека, на жаль, часам не зусім так... Дый сам полавы акт у значнай ступені страціў сваё першаснае прыроднае прызначэньне - служыць для працягу роду. Толькі нязначны адсотак полавых сувязяў заканчваецца нараджэньнем дзіцяці.

У дагістарычныя часы першабытныя людзі аб'ядноўваліся ў кроўна родныя суполкі, у якіх быў распаўсюджаны праміскуітэт (бязладнае полавае жыцьцё). Сэксуальныя кантакты назіраліся і паміж сваякамі першай ступені: бацькамі і дзецьмі, братамі і сёстрамі. Гэта прыводзіла да зьяўленьня ў нашчадкаў цяжкіх дэфэктаў разьвіцьця і да выраджэньня такіх плямёнаў. Таму зьявілася сям'я з шэрагам сэксуальных табу.

Пасьля ўтварылася групавая сям'я. Два роды аб'ядноўваліся ў адзін са строгай забаронай на полавыя сувязі паміж бацькамі й дзецьмі. Але была асаблівасьць - мужчыны адной групы зьяўляліся агульнымі мужамі для жанчын другой групы.

У позьнім палеаліце і асабліва ў нэаліце сфармаваўся й дасягнуў свайго росквіту матрыярхат. Дамінантнае становішча займала жанчына. У яе магло быць некалькі мужоў, і бацька дзіцяці заўсёды заставаўся incognito. Паміж роднымі на гэтым этапе дзейнічала забарона на полавыя кантакты.

Пры канцы нэаліту сям'я стала парнай. Мужчыны й жанчыны пачалі выбіраць сабе аднога сталага партнэра. Гэта садзейнічала фізічнаму й разумоваму аздараўленьню нашчадкаў.

Узаконеная і прыхаваная палігінія (мнагажонства), у адрозьненьне ад паліандрыі (мнагамужжа), побач з манагамнай сям'ёй праходзіць праз усю гісторыю чалавецтва.

***Падрыхтавала ALES'ka***

# СТЭРЭАТЫПЫ "Жо"

V.O.



**Вэлкам у нетры масавай сьвядомасьці - у нашыя адштампаваныя мазгі!**
**Гаворка пойдзе пра жаночыя стэрэатыпы. Увогуле, набор стэрэатыпаў у кожнага ўнікальны, як ДНК. Але што часьцей за ўсё водзіцца ў жаночых галовах? Вядома ж, тое, што зьвязана з мужчынамі! Вы бачылі калі-небудзь, як сустракаюцца мужчына і жанчына? Ці заўважалі, як яны пачынаюць круціцца адно ля аднога, нібы драпежныя пачвары, імкнуцца ўрваць кавалак плоці, пацалунак, прызнаньне? Набыць як мага болей кантролю адно над адным, заблытаць у сетках жаданьняў, абяцанкаў, надзеяў і056 мараў... Не зьвярталі ўвагі, наколькі падобныя адна да адной такія сустрэчы, дзе кожны рух адточаны пакаленьнямі і ўведзены ў традыцыю? Некаторыя жанчыны больш спрактыкаваныя ў гэтых гульнях, некаторыя - менш, некаторыя сьвядома ад іх адмаўляюцца. Але ўсе ў дэталях ведаюць, што рабіць. Рэцэпты маскульту, памножаныя на генэтычную памяць, стаюцца для жанчынаў найпершым дапаможнікам у справе складаньня мужчынаў у штабэлі. Ніжэй мы паспрабуем сыстэматызаваць і клясыфікаваць некаторыя зь іх.**

## ЗЬНЕШНАСЬЦЬ

Паколькі базысным стэрэатыпам міжполавых стасункаў ёсьць сьцьверджаньне, што ***мужчына любіць вачыма***, усе пытаньні вонкавага выгляду набываюць для жанчыны першачарговае значэньне. Назіраньні за маімі сяброўкамі толькі лішні раз пацьвярджаюць аксыёму, што сапраўдная жанчына лепш будзе галоднай, чымся ненафарбаванай. Такім чынам, мы ўпэўненыя: ***мужчынам падабаецца касмэтыка***. Таму абавязковы ранішні face control з элемэнтамі мастацкага росьпісу закліканы дапамагчы ў ператварэньні любога жаночага твару ў штосьці запамінальнае. Ці хаця б прыкметнае. Праўда, тыя, дзеля каго ўсё гэта робіцца, кпяць, што жанчыны выдаюць на касмэтыку больш грошай, чым краіна на ўзбраеньне. Хай! Затое ў нас і перамог болей.

Другая асноўная дэталь зьнешнасьці - валасы. Як вядома, ***мужчынам падабаюцца доўгавалосыя бландынкі***. Чым бландынкі лепшыя за ўсіх астатніх? А яны выглядаюць больш безабароннымі, жаноцкімі і па-дзіцячы наіўнымі. Толькі побач зь імі кожны, нават верабей з адукацыяй у тры клясы, можа адчуць сябе сапраўдным мужчынам. Калі табе не пашанцавала і твае валасы маюць іншы колер, не перажывай: у цябе яшчэ ёсьць шанец пацьвердзіць, што перакіс вадароду - самы дзейсны сродак для высьвятленьня прыгажосьці. Што да даўжыні валасоў... Шчыра кажучы, сваіх знаёмых Мэ, якія ўпэўнена казалі, што ім падабаюцца дзяўчаты са стрыжкай, я па пальцах магу пералічыць. Дый тыя пужаліся сантымэтровага экстрыму a-la вожык колеру сьпелых апэльсынаў і марылі пра тое (цытую), "каб было куды руку запусьціць".

Пункт трэці - фігура. ***Мужчынам падабаюцца доўгія ногі й габарыты 90х60х90***. Гэта аксыёма. Хай мужчына хоць трыста разоў скажа, што яго больш за ўсё ўзрушваюць кішэнныя дзяўчынкі (варыянт: жаночая зборная Беларусі па дзюдо) - ня слухай. Зірні лепш на ягоную рэакцыю, калі міма прадэфілюе якая-небудзь ціпа-мадэлька...

Калі зь фігурай усё ОК, трэба на яе нешта напяліць. Што, менавіта, залежыць ад канкрэтнага парадку дня. Зразумела, калі для цябе галоўнае, каб было зручна, можна апранацца ў джынсы і майку, якая будзе боўтацца вакол цела, як сьцяг брыгады. Але такая амуніцыя непрыдатная для вылазак у лягер праціўніка. Таму што ***мужчынам падабаецца вопратка кароткая, абцягвальная і, пажадана, празрыстая.*** Ага, ледзьве не забылася на ногі: на іх павінны быць чорныя панчохі і пантофлі на высокіх абцасах. Зразумела, папярэдне трэба навучыцца ў гэтым прыгожа рухацца. Калі няма грошай на курсы дэфіле, але ёсьць багатая фантазія, то дастаткова будзе натрэніравацца ступаць па ўяўнай простай лініі - нага за нагу, спакушальна пры гэтым пагойдваючыся.

## АКСЭСУАРЫ & ДРОБЯЗІ

Спачатку - варыяцыя на тэму амфэтамінаў з фэрамонамі: пра дробязі незаўважныя, але важныя. Так, пра пахі. ***Мужчынам падабаецца дарагая і шыкоўная парфума:*** "Шанэль" розных нумароў, "Опіюм" etc. Зразумела, на яе ў цябе можа ня быць грошай. Але і тут ёсьць розныя хітрыкі. Самы просты варыянт - празрыста намякнуць свайму кавалеру пра нармалёвы odeur. Гэта ж яму цябе нюхаць! Калі ў кавалера грошай таксама няма, заводзь сабе іншага.

А цяпер пра рэчы больш відочныя, якія вяртаюць нас усё да таго ж - "Мэ любіць вачыма". Каб вачам было за што ўчапіцца, неабходныя пэўныя прынады. Іншымі словамі, патрэбныя ***аздабленьні.*** Пры гэтым колькасьць бранзалетаў, пацерак ды пярсьцёнкаў на адной асобна ўзятай жанчыне прама прапарцыйная мужчынскай увазе да жаночай пэрсоны. Асабліва варта выкарыстоўваць завушніцы (кажуць, іх пагойдваньне на мочцы вуха надта ж узрушвае шараговага Мэ-прадстаўніка) або танюткія ланцужкі (асабліва надзетыя на руку або нагу). Можна і пярсьцёнкі, абы не заручальныя.

Дарэчы, пра рукі: мужчынам падабаюцца дагледжаныя далонькі з нафарбаванымі пазногцямі. Яны, вядома, памятаюць, што добры манікюр можа ўпрыгожыць ня толькі рукі жанчыны, але і мужчынскі твар. Але ці то мазахізм, ці абвостранае адчуваньне пекнаты прымушае іх зь вялікай увагаю разглядаць жаночыя пальцы. Асаблівую ўвагу мусяць выклікаць розныя складаныя малюнкі на пазногцях, тым больш што іх разгляданьне дае магчымасьць мужчыну затрымаць жаночую далонь у сваёй. А там, патрымаўшы руку, глядзіш, яе і папросіць.

А цяпер вернемся да твару. Дакладней, да таго, што на ім. Сьляпыя і відушчыя, мы ўпэўненыя, што ***мужчынам не падабаецца, калі жанчына носіць акуляры.*** Яно для нас і лепш: нязручна, калі на носе начэплены нейкі прыстасоў. Хаця, вядома ж, натыкацца на слупы і мінакоў ды зарабляць сабе ранькія зморшчынкі, углядаючыся ў навакольнае асяродзьдзе, таксама ня хочацца. Зрэшты, ёсьць лінзы. Тым больш, што зь іх дапамогай можна і колер вачэй зьмяніць; а яшчэ больш цікава падбіраць штораніцы той, які будзе лепш дапасоўвацца да адценьня новай торбачкі альбо да намераў у дачыненьні да новай ахвяры мужчынскага полу (зацягнуць у прорву - блакітныя вочы, спапяліць у жарсным агні - чорныя).

## IQ

***Мужчынам не падабаюцца разумныя жанчыны.*** Гэта цьвердзілі яшчэ нашыя бабулі, гэта пішуць у часопісах "Касмаполітэн" і "Гаспадыня", гэта даводзіць штодзённая рэчаіснасьць. Ня можа мужчына знаходзіцца побач з жанчынай, разумнейшай за яго, хоць яго страляй! Яны - разумнікі, трасцу на іх - нават клясыфікацыю прыдумалі: жанчыны, маўляў, дзеляцца на дзьве катэгорыі: "ах, якая дурнічка!" і "жах, якая дурная!". Вось і застаецца нам быць настолькі разумнымі, каб не паказаць гэтага ўпадабанаму мужчыне. Гульня ў дурніцу можа нават выратаваць у нейкіх далікатных або недарэчных сытуацыях: вось распавядае табе нялюбы мужык казкі пра свае пачуцьці (зразумела, у алегарычнай форме - пра жывёлак розных ды кветачкі), а ты глядзіш на яго вялікімі вачыма і ўспрымаеш гэта як рэальную гісторыю каханьня ягонагаката да суседзкай герані. Розум жа варта паказваць тады, калі мэтанакіравана хочаш спужаць і адштурхнуць надакучлівага кавалера. Якое задавальненьне можна атрымаць, калі паглядзець на твар мужчыны, які даведаўся, што дзяўчына, да якой ён клеіўся, піша дысэр па філязофіі!

## Жо-Мэ

Што датычыцца паводзінаў, то тут ***мужчынам падабаецца жаноцкасьць зь лёгкім адценьнем баламуцтва.*** Гэта так, агульная заўвага. Можна, зразумела, разглядаць пытаньне стылю жаночых паводзінаў і больш падрабязна, з розных бакоў і ў розных ракурсах. Пры гэтым магчыма вылучыць мінімум тры асноўныя стылі (умоўна назавем іх "ice queen", "свой пацан" і "sex bomb"), зь якіх найбольшую ўвагу мужчын мусіць атрымоўваць каралеўская халоднасьць. Бо толькі такія жанчыны вабяць сваёй загадкавасьцю й недаступнасьцю, толькі іх хочацца заваёўваць. Статус жа дзяўчынкі-сябра аўтаматам блякуе ўсялякія рамантычныя інтэнцыі. А рознага кшталту bad girls ды сэксуальныя штучкі - на аматара.

Калі гаворка ідзе пра блізкія зносіны, асабліва з канстантным Мэ, на баламуцтва трэба забывацца. Прынамсі, у дачыненьні да іншых мужчынаў. Таму што няма сярод іх такога, які б лёгка дараваў сваёй даме здраду. Гэта толькі мужыкі ў нас маюць права налева. Таму - уся ўвага на адзінага. А яму, адзінаму гэтаму, падабаецца ***пастаяннае захапленьне ягонай пэрсонай, павага да ягоных вольналюбівых настрояў і несупынны клопат пра ягоны дабрабыт.*** Для тых, хто на падводнай лодцы, тлумачу: мы павінны слухаць ягонае трызьненьне з шырока адчыненым ротам, не параўноўваць яго зь іншымі мужчынамі, адпускаць на сустрэчы зь сябрамі за півам і гатаваць яму есьці. Хаця, каб быць упэўненай, што ён ваш і нікуды ад вас не ўцячэ, гэтага ўсё адно недастаткова. Ёсьць яшчэ такая штука, як сэкс. Як убілі нам у галаву мамкі, нянькі ды жоўтыя газэты, ***мужчынам патрэбна ад жанчыны толькі адно***. Пры гэтым у вялікай колькасьці. Робім высновы. Першае: ня варта адмаўляцца займацца каханьнем - вынік можа быць непрадказальны: некалькі разоў адмовіш, а потым - дзень ня бачыш, два ня бачыш, на трэці краем левага вока пачынаеш бачыць. Другое: ня трэба баяцца экспэрымэнтаў. Кожнае наша "Аёячкі, якое брыдоцьце!" можа моцна абразіць чыстыя мужчынскія памкненьні. А ад абражанага мужчыны лепш хавацца ў бульбу - сабе даражэй. Трэцяе: варта было б падглядзець сёе-тое ў стужках зь некалькімі зорачкамі, таму што абсалютная неадукаванасьць падабаецца мужчынам хіба ў шаснаццацігадовых.

А ўвогуле, існуе сакрэт, веданьне якога зробіць цябе для любога мужчыны самай жаданай: мужчынам падабаюцца ***жанчыны, якім падабаюцца яны***. Таму трэба кідацца ім насустрач, як дзеці да Рональда МакДональда. А калі яшчэ і выглядаць будзеш адпаведна (гл. вышэй), табе застанецца толькі выбіраць. Такія вось элемэнтарныя хітрыкі. Як вынік - глыбокае пачуцьцё маральнага задавальненьня ад таго, што побач будзе ЁН - герой сноў і мара ідыёткі.



# Транссэксуальныя фантазіі

**Захапіўшыся гендэрным аналізам беларускага грамадзтва, стаф "CD" займеў ахвоту зладзіць апытаньне нашых знакамітасьцяў. Кожнаму задавалася пытаньне: "Калі б Вы нарадзіліся асобаю іншага полу, кім са знакамітых мужчын/жанчын Вы б хацелі быць?". Дзіўна (і прыемна) тое, што нашыя вядомыя людзі не выказвалі асаблівага подзіву з нагоды нечаканага тэлефанаваньня і адказвалі амаль адразу на гэтае, як здавалася, няпростае пытаньне. Часу на роздум папрасілі толькі Лявон Вольскі і Аляксандар Кульлінковіч.**



**Лідэр гурту "NRM" Лявон ВОЛЬСКІ** хацеў бы быць Сьнежнаю Каралевай - з-за яе ясных думак і цьвярозага розуму ("Як у чэкіста," - дадаў ён). Ці Бабай Ягой: гэтая жанчына жыве ў спакоі, камфортна, на прыродзе, мае прыватны катэдж у нетрах лясных масываў, мае транспартны сродак, які пераносе пры жаданьні ў любую кропку сьвету, ня мае тэлефону. Таксама прываблівае Лявона адасобленасьць Бабы Ягі ад гарадзкое мітусьні. Напрыканцы сп. Вольскі дадаў: "І харчуецца яна здароваю ежаю…" І гэта ня можа не наводзіць на роздум.



**Пісьменьнік Адам ГЛЁБУС** схацеў бы нарадзіцца ракавой Марлен Дытрых. Хоць яму падабаецца і вобраз Панны Марыі. Сп. Адам лічыць, што патрэбная рэфармацыя хрысьціянства шляхам пашырэньня культу Маткі Боскай, які мусіць прыцягнуць у бажніцы больш мужчынаў. А вось Уладзімер АДАМЧЫК жадае нарадзіцца толькі сабой.



**DJ-VJ'цы Тацяне СУЛІМАВАЙ** падаецца, што яна магла б нарадзіцца Жакам-Івам Кусто: ім, народжаным у адзін дзень (11 чэрвеня), аднолькава падабаюцца вандроўкі. А калі б не Кусто, дык Фрэдзі Мэркуры. "Гэты мужчына пражыў яркае, насычанае жыцьцё, меў і шчасьце, і няшчасьце. Кожны чалавек мусіць паспрабаваць усё," - лічыць спн.Тацяна.



**Аўген КРЫЖАНОЎСКІ (тэатар "Хрыстафор")** з задавальненьнем нарадзіўся б Мэрылін Манро. Прычыны гэтага вельмі празаічныя: яна вядомая акторка, амэрыканка і мела сусьветную славу. Але й Клеапатра магла б падысьці: тая ёсьць вельмі прывабнай і таямнічай. Увогуле, сп. Крыжаноўскаму падабаецца старажытнасьць, менавіта таму ён цікавіцца гісторыяй.



**VJ'ка Ларыса ГРЫБАЛЁВА** нарадзілася б Гагарыным. На пытаньне "чаму?" яна адказала, што той падабаецца ёй зь дзяцінства - зь векапомнага моманту, калі пабачыла першага касманаўта па тэлевізіі.



**Сяргей КУЗІН ("Альфа-радио")** хацеў бы быць Фаінай Раneўскай - "разумнай, прыгожай і маладой". Зрэшты, нарадзіцца Н. К. Крупскай таксама было б няблага - хаця б з-за таго, што "ў яе быў разумны муж".



**Вячаслаў КОРАНЬ**, франтмэн гурту **"Ўліс"**, нізавошта не хацеў бы нарадзіцца жанчынай. "А ўсёткі: кім бы Вы былі, калі б гэта адбылося?" "Вось калі нараджуся, тады і буду думаць".



**Сьвятлана КАШЫЦКАЯ (фітнэс-клюб "Эдем")** хацела б нарадзіцца разумнай, як Аляксандар Друзь (знаны па гульні "Что? Где? Когда?"), моцнай і цягавітай, як Джэкі Чан. І ў любым выпадку шчасьлівай. У гэтым пляне жаночы пол яе цалкам задавальняе: "Я радая, што нарадзілася жанчынай".

Фантазіі зорак стэнаграфавала **ALES 'ка**



ТЭМА

# ТРЭЦІ ПОЛ:

## новая стратэгія беларускіх забавак








Улад Урзаў

***Нягледзячы на тое, што мода на травэсты-культуру з усімі яе складнікамі (кароткая сукенка (спадніца), парыкі, ультра-трэш-строі, ідалапаклонства Мадоне, Марлен Дытрых, Доне Самэр і Амандзе Лір) даўно ўжо адышла, Менск і набліжаныя гарады толькі-толькі пачалі перажываць травэсты-бум.***

***Вобраз травэсты - някепскі спосаб прыцягнуць наіўную публіку ня толькі ў гей-клюбы, але і ў цалкам гетэрасэксуальныя ўстановы. Хто там у промнях лязэраў і штучнага дыму будзе разьбірацца, што ёсьць агульны панятак "трансвэстыт", які аб'ядноўвае drag queen (апрыёрныя м/ж выбіраюць сабе нейкі "зорны" вобраз супрацьлеглага полу для імітацыяў) і травэсты (уласны вобраз ствараецца дзеля самазадавальненьня, а не дзеля шырокай публікі). Даходзіць да таго, што drag queen у форме выконваюць ролю security. Гэта прарыў, але толькі лякальны: пакуль ключавой для беларускіх трансвэстытаў ёсьць фраза "Let me be a Drag queen" зь некалі папулярнай песенькі.***

***Ніжэй - кароткі сьпіс самых заўважных і прэтэнцыёзных гераіняў травэсты-руху Беларусі, якія знайшлі сілы выйсьці ў пярэстым строі і макіяжы з уласнай кватэры да людзей.***

**Бджолка Мая**

- патрыярх айчыннага drag queen-руху. Таленавіты харэограф з адукацыяй, які аднойчы "пайшоў у разнос". Дзякуючы Маі "адбыліся" многія маладыя травэсты. Нязьменная гаспадыня "Трансмісіі" (шоў-конкурс беларускіх трансвэстытаў) да ўсяго ставіцца сур'ёзна і спакойна, хіба што гэтым і імпануе.

Граматна запазычвае і адаптуе заходнія і расейскія візуальныя вобразы - часам сапраўды складана адрозьніць. Сьпіс пэрсанажаў пародыяў вялікі (ад Брытні Сьпірс да Пугачовай), але сьпіс амбіцыяў нашмат большы. Добрыя строі, добрая плястыка.

На гэтых тэрыторыях пакуль непаўторная, хаця відавочна, што ва ўсім сьвеце падобныя каларытныя пэрсанажы, нягледзячы на дасягненьні, мусяць карыстацца неймавернай папулярнасьцю.

**Lisa Bin aka Эдвард Тарлецкі**

Адзіная на сёньня сапраўдная trash diva РБ. У адным з часопісаў расейку Машу Распуціну параўналі з амэрыканцам Мэрылінам Мэнсанам і адзінагалосна вырашылі, што першая, несумненна, круцей. Дык вось, галоўны рэдактар менскага часопісу для геяў і лесьбіянак "Форум Лямбда", піянэр айчыннага "блакітнага" руху Э.Тарлецкі ў жаночым адзеньні нашмат больш круты за Машу. Мяне мала хто можа расьсьмяшыць, але Эдзік робіць гэта заўжды. Для яго ня так важны вобраз і стыль, як шок-кіч-шоў - эмоцыі, якія ён выклікае пры кожным зьяўленьні на публіцы.

Схільны да эпатажу.

Размова ў адным зь менскіх буцікаў пасьля чарговай вечарынкі:

- Я ўчора ў клюбе "перадзелку" (маецца на ўвазе Э.Т.) бачыла.
- Ну і як, цыцкі ў яе сапраўдныя былі?
- Не-а.
- А парык як, казырны?
- Ды не, ты што - "Дынама"!
- А паводзіла яна сябе жахліва хіба як?
- Ясна!
- Ну, а наагул як?
- Як, як... спадабалася... чамусьці...

**Vava**

Па-сапраўднаму пасьпяхова зварганены галоўным рэдам "Форуму" праект. Нязьменны ідал клюбу "Бабілён" зь нязьменнай усьмешкай да вушэй і нязьменнымі нагамі па колькасьці вымаўленых словаў за хвіліну саступае адно што Scatman John. Ваву практычна немагчыма адрозьніць ад дзяўчыны, мажліва гэта і дапамагло ёй выйграць "Трансмісію 2001". Працягвае энэргічныя экспэрымэнты з распрананьнямі.

Адзін з самых эфэктных пэрсанажаў моднай тусьні.

**Стэйсі**

Таленавітая дэбютантка, якая зьявілася перад публікай падчас трэцяга гей-прайду з пародыяй на Ўітні Хьюстан. Цікавосьці: мода ва ўсіх праявах і хаўз. Нягледзячы на процьму спарадыяваных вобразаў, так і ня вызначылася з уласным. Працуе ў творчым тандэме з Луізай. Мае велізарны патэнцыял і жаданьне нешта рабіць.

Viva la Diva!!!

**Луіза**

Мае даволі яркі ўласны стыль, цягам апошняга году яўна прагрэсуе. Пачала з самых першых гей-прайдаў, калі зьявілася на сьвет Мадонай (Луізай Чэконэ), пры гэтым ня маючы з амэрыканкай нічога агульнага. Арыгінальны гарнітур і шоў, любоў да срэбных ды залатых матэрыялаў і да Мадоны рэабілітуе ўсялякія крэатыўныя недакладнасьці. (Апошняя Луізіна Чэконэ была ну ўжо зусім брутальна-гераінавай.)

На жаль, мала займаецца самарэклямай.

**Даліла**

Абсалютна вар'яцкая любка зь Берасьця. Ейная зорка запалілася падчас "Гей-прайду 2000". Гастралюе ў Летуве. Індывідуальныя рысы характару - апантанасьць сваім вобразам, энэргічнасьць, заўсёды добры настрой, упэўненасьць - робяць яе "нумарам адзін". Галоўная гераіня - дзяўчына разьняволеная і самадастатковая. Абыякавых на ейных выступах не бывае.

# АНДРАГІНЫ І...

*Ігар Лік*

**Пра андрагінаў паведаміў Плятон у дыялёгу "Пір" вуснамі аднаго зь яго ўдзельнікаў - Арыстафана. Са словаў апошняга, некалі было ня два чалавечыя полы, але тры. Трэцімі былі андрагіны (ад грэцкіх словаў "чалавек" і "двухполы") - істоты з круглявым целам, чатырма рукамі і нагамі, двума абсалютна аднолькавымі тварамі на круглай шыі, дзьвюма парамі вушэй. Калі мужчынскі пол паходзіў ад Сонца, жаночы - ад Зямлі, дык андрагіны - ад Месяца. Такім чынам, яны - самастойны від жывых істот, а спрэчкі мітолягаў пра тое, каго сымбалізуе Месяц - мужчыну ці жанчыну - ня маюць сэнсу: ён сьвеціць андрагінам.**

### *АНДРАГІНЫ І БУНТ*

Як сьведчыць "Пір", продкі андрагінаў валодалі страшэннай сілай і выношвалі вялікія пляны - Эфіяльт і От, пра якіх пісаў Гамэр, нават спрабавалі далезьці да неба ды напасьці на багоў. Тут яны стаяць побач з тытанамі й Тыфонам, якія таксама замахваліся на ўладу багоў-алімпійцаў. Паколькі андрагіны і іх продкі - істоты чалавекападобныя, то менавіта ад іх пачынаецца доўгі і трагічны ланцуг непаразуменьняў паміж Богам і чалавекам. Ці ня быў біблейскі Зьмей, што спакусіў Эву, закансьпіраваным агентам андрагінаў? А будоўля Бабілёнскае вежы - ці не праява генэтычнай андрагіннай памяці? Дзёрзкая спадчыннасьць не магла ня выклікаць занепакоенасьці на Алімпе, і багі пачалі раіцца, што зрабіць зь непрадказальнымі істотамі - можа, пазабіваць маланкай? Але па-грэцку практычна паразважаўшы, багі зразумелі, што тады ня будзе каму ўзносіць ім хвалу. Таму вырашана было андрагінаў разрэзаць.

### *АНДРАГІНЫ І ПЛЯСТЫЧНАЯ ХІРУРГІЯ*

Менавіта з андрагінаў пачынаюцца захады па зьмене зьнешнасьці й полу. Першым хірургам выступіў Зэўс. Але проста разрэзаць напалам было для яго замала: не абышлося без дыдактыкі. Эстэт Апалён па загадзе Зэўса павярнуў у бок разрэзу твары няшчасных ахвяр хірургічнага вандалізму, каб людзі глядзелі на сваё калецтва і былі больш сьціплымі. Гуманіст Апалён сьцягнуў адусюль скуру да жывата і завязаў яе, "як мех", утварыўшы пупок. Ён упершыню ажыцьцявіў такую папулярную зараз апэрацыю па падцягваньні скуры. Вынік хірургічнага ўмяшаньня быў катастрафічны - паўплывала адсутнасьць у дактароў досьведу і пэрспэктыўнага мысьленьня. Разьяднаныя паловы нічога не маглі рабіць паасобку. Сустрэўшыся, яны спляталіся, каб ізноў зрасьціся, а калі адна палова памірала, дык другая прыціскалася да яе, незалежна ад полу. Пачаўся голад і мор. Тады Зэўс сьцяміў, у чым справа: ён пераставіў наперад дзетародныя органы і даў магчымасьць роду чалавечаму пладзіцца. Але боская хірургія на тым ня скончылася: Зэўс паабяцаў, што калі людзі не супакояцца, то ён разрэжа іх яшчэ раз, і будуць яны скакаць на адной назе.

### *АНДРАГІНЫ І КАХАНЬНЕ*

Існаваньне андрагінаў ёсьць прычынай імкненьня адно да аднаго чалавечых асобаў як рознага, так і аднаго полу. Некалі зьядналыя, палавінкі імкнуцца зьліцца зноў. Разам з тым, як можна меркаваць па тэксьце дыялёгу, пад дылетанцкі скальпель патрапілі ня толькі істоты, што спалучалі мужчынскі і жаночы пачаткі, - існавалі і аднаполыя двухчалавекі. Вынік рэзаньня чалавечага роду быў, з гледзішча сэксуальнай арыентацыі, досыць неадназначны. Адна да адной цягнуліся як разнаполыя, так і аднаполыя палавінкі. Прычым да ўзаемнага імкненьня частак рознага полу Плятон ставіцца з пагардай: мужчынаў, ласых на жанчын, ён кліча "блудадзеямі", а жанчынаў, ахвочых да мужчын, - "распусьніцамі". Пачцівасьць заслугоўваюць у Плятона толькі паловы мужчын, што імкнуцца адно да аднаго. Гэта найлепшыя зь юнакоў, бо яны ад прыроды самыя мужныя; у сталыя гады толькі яны займаюцца дзяржаўнай дзейнасьцю. Такім чынам, андрагіны паклалі пачатак чалавечаму каханьню, у тым ліку і гомасэксуальнаму, апалягетам якога выступае Плятон. Разам з тым, на мужчыну Плятон глядзіць тут без адценьня трансвэстызму: перавага надаецца выключна мужчынскім якасьцям і мужчынскай фактуры - гэтая лінія вядзе хутчэй ад прыгажуна Алківіяда да Фрэдзі Мэркуры, чымся ад "нявесты" Нэрона да рэвалюцыянэра Эндзі Ўорхала - апошняга грэцкія кансэрватары на піры засьмяялі б.



### *АНДРАГІНЫ І ПАХОДЖАНЬНЕ ЧАЛАВЕКА*

Зараз ні ў кога не выклікае сумневу, што наш першапродак Адам спалучаў мужчынскі і жаночы пачаткі - менавіта з апошняга ў яго арганізме ўтварылася Эва. Цікава, што ў беларускім традыцыйным варыянце біблейскай гісторыі Эва ўтварылася з хваста Адама: "наш" Адам меў ня толькі хвост, але і скуру - цьвёрдую, "як кіпцюры". Хвост - традыцыйны фалічны сымбаль, так што ў нас андрагінную прыроду мела Эва. Больш таго, атрымліваецца, што жаночы пачатак прыйшоў да нас цалкам ад Бога, які, па легіцы, сам быў андрагінам. Увогуле, сярод багоў і першапродкаў шматлікіх народаў досыць часта сустракаюцца андрагіны. Ідэя двухполасьці першых людзей ёсьць у індуізме, двухполасьць бостваў прысутнічае ў даасізме, тантрызме, "вучоным герметызме". У нас рысы абодвух полаў мелі Ярыла, Купала. Хрыстос таксама мае андрагінныя рысы абстрактнага чалавека: яго мужчынская прырода амаль зьнікае ў агульначалавечым. Андрагіннае аблічча мелі, як можна меркаваць па выявах, і постаці іканапіснай Тройцы, і анёлаў - асабліва гэта бачна ў Андрэя Рублёва. Вялікую ролю граў андрагін у алхіміі, дзе асноўным актам было злучэньне Сонца (золата) і Месяца (срэбра), у выніку якога ўтвараўся гермафрадыт - Мэркурый (жывое срэбра). Прывід андрагіна мучыў Якаба Бёмэ, яго адлюстраваньне мы бачым у "Сэрафіце" Бальзака.

### *АНДРАГІН І ГЕРМАФРАДЫТ*

У часы Плятона слова "андрагін" было ганебным. Большай павагай карыстаўся сын Гермеса і Афрадыты - Гермафрадыт, які меў мужчынскія і жаночыя полавыя органы. Гермафрадытызм шанаваўся і ў рымскія часы. Людзей з мужчынскімі і жаночымі органамі лічылі за сьвятых, да іх зьвярталіся па дапамогу ў лекаваньні хваробаў і калецтваў. Такога Гермафрадыта мы бачым у рамане Пятронія "Сатырыкон", які выдатна экранізаваў Фэдэрыка Фэліні.

### *АНДРАГІНЫ І ФРАНЦЫСК СКАРЫНА*

У сваёй вядомай гравюры, што зьмешчана ў Бібліі і лічыцца аўтапартрэтам, Скарына злучыў Сонца і Месяц, і гэта ёсьць даволі сьмелым андрагінным актам. Такое спалучэньне сустракаецца толькі ў алхімічных трактатах - і то зрэдку, - дзе сымбалізуе саюз золата і срэбра, мужчынскага і жаночага. Глыбока андрагінны сымбаль, які Скарына выбраў для маніфэстацыі сваёй аўтэнтычнасьці, мае культуралягічны сэнс і тлумачыць сутнасьць Скарыны як асобы, што месьціцца на паўзьмежжы заходняй "мужчынскай" цывілізацыі і ўсходняй праваслаўнай - "жаночай". Праваслаўны (хутчэй за ўсё) па хрышчэньні, але пратэстант па духу, чалавек, Біблію якога не прызнавалі ані каталікі, ані праваслаўныя, учора вязень, сёньня каралеўскі садоўнік, заўсёды без прытулку - яго напаткаў лёс маргінала, які інстынктыўна імкнуўся да рэанімацыі заходняга "мужчынскага" пачатку - актыўнага, інтэлектуальнага, дзейна-практычнага.

### *АНДРАГІНЫ І СЮРРЭАЛІЗМ*

24 чэрвеня 1917 году ў Парыжы была пастаўленая п'еса блуднага сына Наваградчыны, славутага францускага паэта Гіёма Апалінэра "Грудзі Тэрэзія" - "сюррэалістычная драма ў двух актах з пралогам". У п'есе грудзі Тэрэзы ператвараюцца ў паветраныя шарыкі і адлятаюць, у яе вырастаюць барада і вусы, яна робіцца мужчынам, а ейны муж пачынае самастойна нараджаць дзяцей - 40.050 у дзень. Як бачым, андрагіннасьць і трансвэстызм стаяць ля вытокаў эўрапейскага авангарду. Апалінэр, які прыдумаў тэрмін "сюррэалізм", у прадмове да п'есы тлумачыць яго так: "Калі чалавек вырашыў пераняць хаду, ён стварыў кола - прадмет, непадобны да нагі. Гэта быў несьвядомы





сюррэалізм". Згадайма, што, паводле Плятона, андрагіны, калі некуды сьпяшаліся, хадзілі менавіта колам - заносілі ногі дагары і працавалі ўсімі васьмю канцавінамі. Кола і рух па зямлі, кола і перамяшчэньне ў прасторы - вось сапраўдная звышрэальнасьць, тая, якая праз колькі тысячагодзьдзяў прымроілася Апалінэру, а пасьля - Андрэ Брэтону і Co. Спэцыфічны спосаб перамяшчэньня быў адной з прычынаў вынішчэньня андрагінаў: ён не падабаўся прадстаўніку антычнага рэалізму Зэўсу. Тут мы маем ці ня першы ідэоляга-эстэтычны канфлікт у эўрапейскай гісторыі.

### *АНДРАГІНЫ І ХАОС*

Культуралягічна андрагін асацыюецца з хаосам. Усё пачалося з андрагіна і ўсё ў яго вернецца - сальецца ў энтрапічнай непадзельнасьці, каб ізноў, згодна з індуісцкай сыстэмай касьмічных цыкляў, пачаць стварэньне новага, разьмеркаванага на часткі космасу. Набліжэньне процілеглых пачаткаў (у першую чаргу мужчынскага і жаночага), сынкрэтызм, культурны сынтэз - прыкметы надыходу хаосу, канца пэўнага культурна-цывілізацыйнага цыклю. Эклектычныя стылі пачатку XX ст. - мадэрн, арт дэко, жаночы стыль "гарсон", дэкадансны культ вытанчанасьці заняпаду, дзе бледныя зь сіньню пад вачыма твары жанчын мяшаліся ў карнавальным хаосе з эстэтаванымі да экстатычнай вытанчанасьці П'еро мужчынамі, - усё гэта прадказвала жахі сусьветных катаклізмаў XX ст. Артэфакты культуры постмадэрну (дзе галоўнае - зьняцьце межаў, зьліцьцё, памяжоўнасьць), фэмінізм у яго яскравых праявах (служба жанчын у войску, зьнішчэньне полавай спэцыялізацыі працы, зьяўленьне такіх відаў спорту, як жаночая штанга, барацьба); распаўсюджваньне андрагінных формаў вопраткі (красовак, джынсаў, швэдраў, курткак), фолк-рок, ідэалёгія мультыкультуралізму - сьведчаць пра хуткі надыход хаосу, папярэджаньнем чаго сталіся падзеі 11 верасьня. Пасьля іх, хутчэй за ўсё, сусьветнае грамадзтва ізноў пачне касмаганічную сэпарацыю, космаса-структурны падзел на бінарнасьці, у тым ліку - мужчынскую і жаночую.

# ДЗЕНЬ ФЭМІНІСТКІ:
## УРЫЎКІ ЗЬ ДЗЁНЬНІКА

*Таіса Сьвідэрская*

**7:00** Кожнай раніцы, спускаючы ногі з ложка, я думаю: вось яшчэ дзень, напоўнены змаганьнем за права быць эгаісткай. Добрай раніцы, Божа.
У мяне нікога няма. Мужа я паставіла на горныя лыжы. Сама набыла пуцёўку, каб пабыць адной, паплаваць, як рыба, у вялікай чыстай кватэры, дзе спрэс маўклівыя любімыя рэчы. Ніхто не заваліцца разам з кампаніяй увечары, ніхто не пачне наразаць і разьліваць, і ў хаце ня будзе задухі і атупелых твараў. Зрэшты, апошнім часам яны й так перасталі заглядаць: "Твая грымза стол не накрые і ў кампанію ня пойдзе, будзе сядзець, як сыч, за кампутарам".
Да таго ж: я ня мыю посуду за ягонымі гасьцямі.

**7:10** Як ні валяйся, трэба ўставаць. Працоўны дзень ляжыць як пустка й кліча аратага. Я ўстаю, п'ю гарбату і пачынаю шпакляваць свой ужо трохі патрыманы твар. Мне 25. Думаць пра сталасьць трэба ўжо зараз. Да 24 я зьбірала на кватэру, год пажыла як чалавек, а цяпер самы час ашчаджаць на будучыя падцяжкі твару. Дабрадзейнасьць маладых дзяўчат - у парцалянавых тварыках. Дабрадзейнасьць сталых кабетаў - у добрай тынкоўцы. Тыя, хто не выконвае правілаў гульні, пераходзяць у разрад цётак і бабак і мусяць хутацца ў хусты.
Антычныя ідэалы прыгажосьці жывуць ва ўсіх нявольніцкіх грамадзтвах.

**8:00** Тралейбус нясе мяне ў бальніцу да сяброўкі. У тралейбусе шмат штурханіны й хамства, ды пра гэта не пісаў хіба апошні лайдак. Мяне больш цікавіць, як жанчыны з апошніх сілаў стараюцца "смотреться": гарнітур зьлямцаваны, у катышках, торбачка капеечная, але падабраная пад туфлі, твар напамажаны, калготкі амаль незаўважна заклееныя лякам. На парэпаных ад хатняе працы руках зьзяюць наманікюраныя пазногці. Дзяўчаты на фоне зьнябожаных жанчынаў выглядаюць як акропленыя расою ружы. Але жыцьцё празь некалькі год выпрадукуе й зь іх вось такіх, стомленых ужо з раніцы жанчын. Бабы едуць на працу, каб адпачыць ад першага раўнду хатніх клопатаў. Другі пачнецца вечарам, зь пераходам у ноч.
Нехта падлічыў, што калі б плацілі за хатнюю працу й вырошчваньне дзяцей, кабеты "зараблялі" б тры гадавыя бюджэты краіны за год.

**8:30** Не бальніца - вяр'ятня. Наладавалі карантын, і парэзаныя кабеты стаяць у чарзе да ваконца ў "здаровы сьвет". З боку "здаровых" - чарга родзічаў з клункамі ежы. Мая сяброўка, якой выразалі кучу органаў і наклалі кілямэтры швоў, зьбялелая стаіць напрыканцы чаргі. "Ідзі ў палату! - крычу. - Я да цябе сама дабяруся".
Адшукваю лёхі, кудою возяць нябожчыкаў, дастаю з торбы трохі занызганы лекарскі халат, куртку сую ў торбу і праходжу разам зь нейкімі прыбіральшчыцамі на тэрыторыю карантыну. Дарэчы, вы заўважылі, што ў аб'явах аб прыёме на работу заўжды пішуць "патрабуецца прыбіральшчыца"? Мова адбівае гендэрныя стэрэатыпы, як пясок адбівае сьляды. Слова "прастытут" няма наогул, а "прыбіральшчык" - толькі ў слоўніках. Зрэшты, мова зьмяняецца незаўважна, але хутка, як пяшчаны ляндшафт.
Нарэшце дабіраюся да трэцяга паверху, дзе ляжаць парэзаныя "па-жэнску" гаротніцы. Сяброўка плача, ёй баляць швы. Старая жанчына ля сьцяны азірае яе пільным вокам і кажа мне: "Няма горшага гора, як быць бабаю. Я ўсё жыцьцё бабскае пражыла, двох сыноў нарадзіла, і ўрэшце зьмірылася, што я баба. А змоладу бунтавалася". "Як можна бунтавацца супраць уласнага полу?" - пытаю я. "Душою", - кажа бабця.
"Галоўнае прызначэньне жанчын - дом і сям'я". Фіг! Маё галоўнае прызначэньне - місія, прафэсія, самарэалізацыя і асабістыя дачыненьні з Богам. Сям'я таксама ёсьць у сьпісе, але жыве і памірае чалавек індывідуальна.
Еду на працу ў газэту.

**11:00** Учора напісала артыкул пра гомельскую калёнію, дзе сядзяць мужазабойцы. Мужы даводзілі жонак да гэтага ўчынку дзесяцігодзьдзямі. Выклікае мяне шэф, абдымае за плечы ды кажа: "Тасечка, што вы тут панапісвалі? Няма такой зьявы, як бітыя жанчыны. Калі муж б'е, ня будзь авечкаю - ідзі ў міліцыю, суд, грамадзкія арганізацыі, а ня хлюпай у падушку. Падумайце яшчэ раз, Тасечка, і выкладзіце гэта не як грамадзкую зьяву, а як жыцьцёвую гісторыю. "Людзі і лёсы", карацей."
"Ксавэр Паўлавіч, а вы Андрэя Бацяноўскага таксама за талію й плечы берыцё і Андрэйкам называеце?" Ксавэр пасьпешліва адхоплівае руку: "Ну й язва вы, Таіса".
Язваю, сьцервай мяне называюць часта, але за вочы. Добра, што Ксавэр чалавек незласьлівы й адкрыты. З-за пастаяннай гатоўнасьці абараніць сябе я псую ўнутраную экалёгію. Жанчын у нас выхоўваюць як старасьвецкіх паненак: лагодная, гасіць канфлікты, гаворыць ціха, уважліва слухае, не перапыняе. А калі ўсунесься й пачнеш канкураваць, дык ты ўжо бой-баба, агалцелая фэміністка.
"Дзетак у яе няма, вось і бесіцца" - гавораць пра мяне ў рэдакцыі. Я напісала плякат над сталом:
"Людзі вакольныя шмат напладзілі дзяцей.
Калі я ўстрымаюся, шарыку будзе лягчэй".
Насамрэч я пляную дзяцей бліжэй да 30-ці.

**16:00** Ксавэрык аддаў артыкул ў набор; пакрывіўся - але зь мінімальнымі праўкамі. Бацяноўскі зноў пачынае глуміцца: "Ну што, фэміністка, дамаглася свайго? Якая ты фэміністка, калі копія маёй жонкі: кампутар сама направіць ня можаш, дыктафон - таксама мужыкоў клічаш. Шафэрскіх правоў табе ня далі, бо ня маеш прасторавага ўяўленьня, як усе вы, стопрацэнтныя жанчынкі".
Думае, што спрытна падчапіў! А я і ёсьць 100%-ная жанчына. Я не жадаю стацца падобнай на мужчыну. Я хачу, каб жаночае жыцьцё цанілі, каб яно зрабілася адкрытым. Каб гісторыя пісалася абодвума паламі. Каб жанчыны маглі рэалізавацца ў працы, а мужчыны - і ў сям'і, і ў бацькоўстве.

**18:00** Вячэра гатовая. Лямінарыя, садавіна, мюсьлі. Гарбата зь мёдам. Ніякіх біфштэксаў. Патэльні з рондалямі адпачываюць. Сьпіце спакойна да вяртаньня мужа, дарагія таварышы.

**19:00** Пасьля ўсіх працэдураў і лёгкай вечаровай прабежкі я апранаю ружовы пушысты халат, пантофлі а-ля мадам Пампадур і апускаюся ў глыбокае крэсла з дамскім раманам, дзе дзейнічаюць моцныя мужчыны і пяшчотныя жанчыны. Я таксама люблю моцных мужчынаў. А слабых я апякаю. Ва ўсіх сэнсах гэтага слова.

**22:00** Дабранач!!!



# "Я АХРЭНЕЛА, калі пачула"

## Крышку сьцерва Элеанора Язерская

***Кіч як самая простая форма паспытаць агульнанароднай вядомасьці досыць рэдка выкарыстоўваецца нашымі прэтэндэнтамі на званьне "топ" – тыя не рызыкуюць выпасьці з а-ля сьвецкага абароту. Элеанора Язерская (да сьціплага "тэлевядучая БТ" так і хочацца дадаць "графіня") ці ня самая першая ўзяла на сябе сьмеласьць увесьці элементы кічу ва ўласны вобраз – і сарвала банк. Псыхадэлічныя вядучыя на фоне ўбогіх дэкарацыяў – крыж БТ – былі адсунутыя эксцэнтрычнай мадам вечна бальзакаўскага ўзросту на апошнія месцы. Шэры БССР-аўскі афіцыёз біўся ў канвульсіях, але нічога ня мог зрабіць. Экстравагантныя капелюшы, касічкі і кот на каленях у дзівы падчас размоваў у "Музычным салёне" сталі агульнапазнавальнымі.***
***Але фавор не бясконцы. На зьмену жабчыным лапкам па-француску, вымачаным у беларускім малацэ, прыйшоў касмапалітычны фаст-фуд...***

**"CD": Найперш зьвярнуся да Вас як да прафэсійнага музычнага крытыка...**
Э.Я.: Музычным крытыкам мяне ўжо цяжка назваць. Я даўно ўжо проста тэлевядучая. Канешне, на беларускім тэлебачаньні вядучымі не становяцца хіба што дворнікі...

Я скончыла кансэрваторыю і, шчыра кажучы, усё ведаю пра музыку. Пачала працаваць вядучай музычных праграм. Але паступова мая прафэсія зрабілася больш шырокай, таму што ў праграме, якую я рабіла, гасьцямі былі ня толькі кампазытары і музыканты - былі дыпламаты, артысты, мастакі, літаратары і проста цікавыя людзі. Так сталася, што на ролю выключна музычнага крытыка я забылася даўно.

**"CD": Але ж у Вас ёсьць уласнае меркаваньне наконт сучаснай поп-культуры?**
Э.Я.: Што да поп-музыкі, тут у нас усё жахліва. Паглядзіце хаця б на нашае тэлебачаньне. БТ я прынцыпова не ўключаю, але так атрымалася, што аднаго разу амаль прымусілі. Паглядзела праграму... як яе... "Плянэта Арт". Праграма пра ўсё і ні пра што! І пададзеная на ўзроўні дому культуры. І яшчэ адна, "На скрыжаваньнях Эўропы". Яе я назвала для сябе "На задворках Эўропы". Захацелася патэлефанаваць Сяргею Кузіну і сказаць: "Як табе, Сяргей, ня сорамна несьці такую бязглузьдзіцу?" Усё на роўні канфэрансу зь "Незвычайнага канцэрту" Абразцова. Я, як кажуць, ахрэнела, калі пачула. Потым стала думаць: праграму ж гэтую робяць людзі без адпаведнай адукацыі, якія да музыкі ніякага дачыненьня ня маюць. Дарэчы, ня вельмі разумныя. Гэта жудасны ўзровень, гэта сорам! І тое вам кажа Элеанора, якая займаецца музыкай амаль 50 год!

**"CD": Досыць жорстка і ваяўніча.**
Э.Я.: Магчыма, таму я і адлучаная ад этэру тэлебачаньня. Мінулай вясной я сабрала вялікую прэс-канфэрэнцыю і аб'явіла вайну Аляксандру Дамарацкаму, Ягору Хрусталёву, Ягору Рыбакову. Якое ж гэта кіраўніцтва! Хрусталёў вось ужо зьбег, як пацук з карабля. Гэта вельмі цынічны малады чалавек, як аказалася. Яму такія словы як "сяброўства" і "прыстойнасьць" невядомыя. Я, як і іншыя на Беларускім Тэлебачаньні, чакаю фінансавых праверак - нельга было яго проста так адпускаць! Тэлебачаньне зьнішчана - усё тое, што ствралася гадамі. Кавалерыйскім наскокам зрабіць БТ за 4 месяцы немагчыма. Вынік - пэтэвэшны ровень сёньняшняга тэлебачаньня. А яно ж павінна да свайго роўню падцягваць!

**"CD": Некаторыя кажуць, што і "За стеклом" была праграмай для пэтэвэшнікаў. А якія рэйтынгі!**
Э.Я.: У ТВ-6 быў такі ровень, які БТ нават і ня сьніўся. А "За стеклом" я ніколі не глядзела. Вядома, мэта праграмы - рэйтынг. Але адкуль узялі гэтых "дзяцей падзямельля" - убогіх, закамплексаваных, аднаклеткавых, са слоўнікавым запасам пляменаў мумба-юмба?

**"CD": Але так сапраўды жывуць ці ня сто адсоткаў маладух і маладзёнаў ва ўсім сьвеце. Яны чвякаюць, калі ядуць, пачэсваюць азадкі, калі там чэшацца, могуць сукупляцца ў душы...**
Э.Я.: Асуджаць і казаць: "А вось у наш час!" - было б глупствам. Але захапленьня дэцаламі я не разумею. Моладзь розная. Ёсьць адмарозкі, што размаўляюць матам і гадзінамі стаяць каля МакДональдза, але ёсьць іншая моладзь. З тонкімі тварамі, арыстакратычная, інтэлектуальная.







"CD": Ці былі такія людзі, якія "падняліся" за кошт Вашага ўплыву, славы і вядомасьці?
Э.Я.: Маеце на ўвазе Віталя Жукава, якому, як лічаць, я ў свой час дапамагла? Ды не! Магчыма, ён безь мяне зрабіў бы значна болей. Так, я шмат каму ў жыцьці дапамагала і стаўлюся да гэтага нармальна. А вось "паразытызму" не прымаю і ніякіх альфонсаў каля сябе не трымаю. Я іх добра вылічваю.

**"CD": У беларускай VIP-энцыкляпэдыі Вашае імя запісанае залатымі літарамі...**
Э.Я.: Ня трэба мяне пераацэньваць. Мая прафэсія - казаць пра таленты іншых. І раблю я гэта добра. Я не перабольшваю сваю ролю, але гонар маю: ёсьць мая роля ў жыцьці Беларусі 70-90 гадоў XX ст. Але я хачу папрацаваць і ў XXI-м. Калі адна газэтка напісала пра мяне "экс-вядучая", я такі скандал учыніла! Элеанора Язерская ніколі ня будзе "экс". Я заўсёды буду штосьці рабіць. Прыкладам, у гэтым годзе я зьнялася ў фільме "Госьці". Той Элеаноры, якую ўсе ведаюць - у капелюшы і ў боа - там і блізка няма. Я знайшла ў сабе мужнасьць зрабіцца на экране непрыгожай, старой паскуднай цёткай, якая затэрарызавала ўсіх. Зь мяне нават дома сьмяюцца: ты такую сьцерву сыграла бяз грыму, так што падумай!

**"CD": Вы мяркуеце, гэткая сьцярвознасьць патрэбная жанчыне ў жыцьці?**
Э.Я.: Кожная сапраўдная жанчына - крышку сьцерва. Таму што сьцярвознасьць - гэта праяўленьне характару. Але нашая сьцярвознасьць мусіць быць вельмі прывабнай.

**"CD": Патыхае фэмінізмам.**
Э.Я.: Не люблю фэміністак. Так, я даволі самадастатковая і самастойная жанчына, але шмат год шукаю сьпіну, за якой магла б крышку адпачыць. Жанчына павінна быць жанчынай. Ведаць сябе, ведаць мяжу сваёй адказнасьці. Мець уладу над мужчынамі. Мець свой занятак. Але ўсё павінна быць арганічным. Напрыклад, я прытрымліваюся тэзы, што чым болей гадзін жанчына прастаіць ля пліты, тым болей атруты яна прыгатуе сваёй сям'і. Жыцьцё кароткае, навошта столькі часу губляць на гатаваньне ежы, якую зьядуць за некалькі хвілін? Ці магчыма ўявіць Элеанору, якая дома закатвае слоікі з памідорамі? Ні ў якім разе! Гэта была б іншая жанчына, іншы вобраз.

"CD": Свой вобраз Вы неяк сьвядома ствараеце, адсочваеце, ці гэта атрымліваецца спантанна?
Э.Я.: Я такая, якая ёсьць. Але факт: шмат хто ўключаў БТ, каб паглядзець, у чым там Элеанора сёньня. Я ніколі не гляджу часопісы мод. Але шмат купляю і шыю адзеньня. Апошнія год пяць апранаюся ў фірме "Андарак". Мадэлі распрацоўваю сама, часам з дапамогай уладальніцы фірмы Верай Пашкоўскай.

Зараз я на нейкім раздарожжы: грошы на БТ плацяць малыя, трэба некуды ісьці працаваць. Слава мне не патрэбная, мяне і так усе ведаюць. Мне больш за ўсё хочацца адчыніць рэальны "Салён Элеаноры Язерскай". Бо цяпер маё імя - раскручаная гандлёвая марка, брэнд. "Салён Элеаноры Язерскай" быў бы арыстакратычнай кавярняй, дзе віселі б карціны маіх любімых мастакоў. Зрабіла б я ўсё гэта элегантна, і людзі, я ўпэўненая, пайшлі б да мяне.

А пакуль што я пачала пісаць кнігу "Я - Элеанора, ці Жыцьцё - не салён".

**"CD": Як Вы ставіцеся да шматлікіх чутак вакол вашай асобы? Як-небудзь выкарыстоўваеце іх на ўласную карысьць?**
Э.Я.: Калі ёсьць цікавасьць да цябе, павінны быць і чуткі. Выкарыстоўваць - не. Яны мяне часам забаўляюць. На гэты конт у мяне ёсьць выдатны выраз: вы ўсё ведаеце пра маё жыцьцё, а я нават ня чула вашае імя...

***Гутарыла Натальля Лазука***

***Язерская Э.А.***
***Збор цытатаў***
***/2000-2002/***

*"Гісторыя 70 - 90-х нашай краіны безь Язерскай будзе няпоўнай."*

*"Тых, хто замяніў бы мяне на музычным канале ў маім жанры, сёньня, на жаль, яшчэ няма."*

*"Я - лякаматыў, а не прычапны вагон."*

*"Ёсьць чатыры жанчыны ў гісторыі XX ст., якія мяне вельмі займаюць, - у іх ёсьць чаму павучыцца. Гэта Ліля Брык, Наталя Канчалоўская, Алена Булгакава і Како Шанэль... Разважаючы пра іх лёсы, я прыйшла да высновы: толькі тым жанчынам, якія вядуць насычанае духоўнае жыцьцё, Бог дае доўгую фізычную прывыбнасьць."*

*"Выглядаю добра, дзякуючы харчовым дабаўкам і маладому сябру."*

*"У 20 гадоў дзяўчына мае твар, які ёй дорыць прырода, а ў 50 - якога яна заслугоўвае."*

*"Не люблю хамскую ежу, калі ядуць бульбу з буракамі альбо макароны з хлебам. Сама ня ўмею па-хамску есьці і не люблю, калі ў маёй прысутнасьці ядуць па-хамску. Я лепш сыду галодная."*

*"Я пачала насіць касічкі, калі мне было 50 год."*

*"Ня трэба апранацца на свой узрост. Прыроду трэба трошкі падманваць."*

*"Без ката і капелюша мяне на вуліцы ўжо не пазнаюць."*

*"Я добра выхоўваю катоў і мужчынаў."*

*"Што такое нянавісьць? Гэта захапленьне ворага."*

# КОМІКСЫ: КОМІКСЫ:

## ЧАРОЎНАЕ МАСТАЦТВА БУРБАЛКІ

/Працяг. Пач. у #1'02/

Натальля Лазука

### НАШЫЯ Ў ГОРАДЗЕ

Ясны pepper, нам спрачацца з 1000-гадовай японскай мангай не выпадае. Бі, ня бі сябе іканастасам у грудзі ў намаганьні выдаць яго за протакомікс, максымум, на што ты прэтэндуеш, - праклён служкаў царквы.

Восемдзесят год працоўнага стажу... У 1919-21 гг. на дамах пралетарскіх гарадоў і весяў зьявіліся "Вокны сатыры РОСТА" - Расейскай тэлеграфнай агенцыі. Паколькі спэцыялізацыя гэтай установы была досыць размытай, савецкія грамадзяне з радасьцю віталі плякаты рознай тэматыкі. Зробленыя па трафарэце і размаляваныя ад рукі, у адзіным экзэмпляры, "вокны" радавалі ідэалягічна граматнымі гісторыямі ў вершах і карцінках простых рабочых і сялян. "Даеш!", "Далоў!", "Рукі прэч!" - гэтыя цытаты з РОСТу вельмі хутка сталіся архіпапулярнымі сьлёганамі рэклямнае кампаніі "На шляху да камуністычнага заўтра". Узгадайма клясычнае "Ешь ананасы // Рябчиков жуй" (і далей па тэксьце) // у выкананьні мастака М.Чарамных і паэта Ў.Маякоўскага - ці ня коміксавая стылістыка? Схематычна, але сатырычна, адно што да тэмаў: ад збору апенькаў і баравікоў для галадаючых да барацьбы супраць тыфознай вошы...

Беларусы вырашылі адаптаваць пад нацыянальную сыстэму сатырычных каштоўнасьцяў РОСТавыя "вінды" ў 1919, калі ў Смаленску было створанае мясцовае аддзяленьне - ЗахФронтРОСТ (у яго складзе быў нават С.Эйзыштэйн!). У 1920 ЗахФронтРОСТ пераяжджае ў Менск. Напэўна, маладая сталіца Савецкай Беларусі аказала на маладыя творчыя розумы такі моцны ўплыў, што мясцовыя ростаўцы вырашылі не разьменьвацца на драбязу, а адразу пачалі закладаць першаасновы нацыянальнага... графіці. Перакваліфікаваўшыся з мастакоў у райтэры, пацаны кінулі паліць і "забамбілі" агітпропам не адзін вагон беларускай чыгункі.



У.Маякоўскі. "Сябры, не паддавайцеся паніцы". Вокны РОСТА, 1920

У.Маякоўскі. Вокны РОСТА. 1920

М.Чарамных. Вокны РОСТА. 1921

М.Чарамных. "Што Гітлер хоча...". Вокны ТАСС, №5, 1941

В.Яфімаў. "Выступалі - весяліліся, падлічылі - прасьлязіліся".Плякат, 1942

М.Гурло. Малюнак з "Вожыка", 1960

"ПІФ і Геркулес". Комікс-укладка з часопіса "Наука и жизнь"

Дакладна не вядома, куды падзеліся ЗахФронтРОСТаўцы ў 1930-х (некаторыя кажуць, што ў 1937-м Крымінальны кодэкс не даваў райтэрам шанцаў на памылку, асабліва палітычную), але аднавіцца беларускаму коміксу ўдалося толькі падчас Другой Сусьветнай вайны. "Вокны ТАСС" зьявіліся па ініцыятыве Масквы, а таму не адрозьніваліся арыгінальнасьцю. У авангард уласнабеларускага комікс-мэйкерства стала гомельская плякат-газэта "Раздавім фашысцкую гадзіну", якая задавала тон у лупцаваньні фашысцкага рэжыму. Стыль РФГ зрабіўся вельмі модным: байцы і санітаркі з франтоў і тылу балдзелі ад карцінак В.Букатага, А.Шаўчэнкі і Б.Зьвінагародзкага. Ці не праз ашаламляльны посьпех у галовах беларускіх савецкіх крыэйтэраў зьявілася думка зрабіць з самвыдатаўскага РФГ часопіс "Вожык", які быў заснаваны ў 1944 годзе. Ня будзем спрабаваць ацаніць "гумар па-беларуску": у літаратуразнаўстве падчас вайны і пасьля яе лютавала тэорыя бесканфліктнасьці - вось і заставалася "гумарыстам" апісваць і маляваць ціхамірныя сустрэчы каханых ля раённай Дошкі гонару.

**BULBA COMICS**

100%-ы комікс зьявіўся ў Беларусі напрыканцы 1980-х. Марудна, зь цяжкасьцямі, але выдавецтвы "Юнацтва" і "Беларусь" спрабавалі задаволіць густы патрабавальных тынэйджэраў. Сапраўдную рэвалюцыю ў моладзевай культуры пачатку 1990-ых зрабілі коміксы з часопісу "Бярозка", якія маляваў Адам Глёбус і інш. Праўда, "Легенда ў малюнках "Дзікае паляваньне" паводле аповесьці Ў.Караткевіча была разьмешчаная з кніжных паліцаў цягам двух-трох гадоў: "бэстсэлер" ужо ня так каціў моладзі 90-х, выхаванай на візуальных вычварэнствах Эньдзі Ўорхала.

Пакінем па-за ўвагай спробы зрабіць Дыснэеўскія коміксы пра Міку, Міні, Дональда і Гуфі на белмове - яны гэтак жа хутка скончыліся, як і пачаліся. Зрэшты, коміксаманія ня стала характэрнай рысай сучаснай беларускай культуры. Так, спарадычна зьяўляліся малюнкі з бурбалкамі ў розных пэрыядычных выданьнях, але нейкага канцэптуальнага падыходу да коміксаманіі не назіралася.

Аж пакуль не зьявіліся "Навінкі" - друкаваны орган беларускіх анархістаў. Пастаяннае і досыць прадуктыўнае лямзаньне герояў і тэмаў зь вядомых крыніцаў дзеля закопваньня айчынных палітычных і каля таго трупаў - што можа быць больш рамантычным і па-юнацку задзірыстым?! Некаторых палітыкаў "Навінкі" сапраўды задзіралі, але лічыцца, што зрабіцца героем андэрграўнднага таблоіду вельмі прэстыжна. Самы смак - быць растыражаваным у фотакоміксах газэткі! Калі ня ведаеце, праз якія "церні" прабіраліся навінкаўскія мастакі-фатографы, дык адчуйце...



"Бурсонікі". Менск, "Юнацтва", 1992



"Бурсонікі". Менск, "Юнацтва", 1992


"Плянэта Мілітар"
Мастакі - М.Гардзееў,А.Каршакевіч



"ДЗУРАЙ". Менск, Міжвыдавецкі фотацэнтар, 1991



"Тарзан"


А.Глёбус, У.Сьцяпан. "Дзікае паляваньне", 1991



"Навінкі". №11, 2000



А.Хацкевіч. Рэкляма аднаго з праектаў С.Міхалка, сяр. 90-х

Каля аднаго з МакДонаў сядзіць плястыкавы помнік герою Стывена Кінга - расфарбаваны гуманоід, увасабленьне прагнілай капсыстэмы клоўн Рональд МакДональд. Даверлівыя бацькі не адзін раз фоткалі ў яго на каленях сваіх дзетак. Пры гэтым ніхто не задаваўся пытаньнем, чаму прыкручаны просвамі Рон, душа рэклямнай кампаніі амэрыканскай карпарацыі, больш ня здольны ўставаць. Што казаць - гэта быў не ягоны дзень, калі рэдактару "Навінак" прыйшла ў галаву ідэя зрабіць фотасэсію для чарговых коміксаў з удзелам Рона. Узьнялі анархісты яго, тады яшчэ бяз просвы ў адным месцы, як на ліха скурчанага ў шматзначнай позе, з лавы і...

Ясна, што анархістаў-вычварэнцаў міліцыянтам не ўдалося прыцягнуць да крымінальнае адказнасьці, але пра маральную непахіснасьць папулярнага героя з часу сустрэчы з чырвоназоркаўцамі звычайна ніхто ня згадвае.

Што да жывых клясыкаў, то тут варта адзначыць Лявона Вольскага і "Ляпіса Трубецкого" з кампаніяй. Што характэрна: і першы, выпускнік Менскай мастацкай вучэльні, і ярыя "ляпісаўцы" Болек і Лёлік за асноўнага героя выбіраюць "парня ціпа Сірожы" - вяскоўца ці гараджаніна са спальных раёнаў, які "двігает цему, но немнога арыгінальна, па-своему". Хаця ўсе ўсё выдатна разумеюць. А сытуацыя зь "Ляпісом Трубецким" добра дэманструе, што менавіта падобнага кшталту прадукты карыстаюцца ў нашай публікі надзвычайным попытам: згадайце, як "казырна" было яшчэ некалькі год таму размаўляць на трасянцы! Брутальныя коміксы мастака Пачыцкага для вокладкі альбому "Ты кінула" ці кліп "НэЛэО" - усё гэта выдатны прыклад таго, як такога кшталту мастацтва робіцца сапраўды народным. Што там іхныя дэбілы Біwіс&Бадхэд, калі наш Сірожа стаўся квінтэсэнцыяй беларускай усеагульнай млявасьці і абыякавасьці да жыцьця. Хаця і гэты пацан ня вечны...

Канец? Хм, ведаючы апошнія захапленьні айчынных коміксмэйкераў і ўлічваючы багаты, 80-гадовы досьвед нацыянальных малюнкаў з бурбалкамі, маем нахабства заявіць, што прынамсі гэты матэрыял будзе мець працяг. Сачыце за анонсамі!



# ВЫБУХ У ХІМІЧНАЙ ЛЯБАРАТОРЫІ АДКЛАДАЕЦЦА

**Лёндан. Серада. Пахмурны вечар. Пад дажджом, з мабільным тэлефонам ля вуха, Эд Сіманс - 50% дуэту ~~CHEMICAL BROTHERS~~ - ідзе вулкамі свайго раёну. Чым бліжэй да дому, тым часьцей ён прыпыняе размову, каб павітацца з суседзямі: "Здароў! Як справы? Не магу зараз размаўляць - даю інтэрвію". "Sorry!" - крычыць ён мне ў слухаўку, чарговы раз просячы паўтарыць пытаньне. Скончыўшы размову, ён хуценька патэлефануе сваёй дзяўчыне, у краме побач купіць піва і праз пяць хвілінаў у кампаніі girl-friend і другой паловы дуэту, Тома Роўландза, зручна ўладкуецца перад тэлевізарам. Іх футбольныя фаварыты, "Арсэнал", гуляюць сёньня з гішпанскім "Дэпартывам".**

Вы спытаецеся, чаму футбол займае столькі месца ў жыцьці аднаго з найбуйнейшых электронных гуртоў сучаснасьці? Адказ просты. Апошнія хвіліны ***CHEMICAL BROTHERS*** займаюцца дурневаляньнем. Праз колькі дзён іх чакае цяжкая праца: пасьля паўгадовага перапынку яны зноў выпраўляюцца ў турнэ - гэтым разам будуць раскручваць свой новы альбом "Come With Us". І зноў будуць высылаць сваім сем'ям фатаздымкі з самых далёкіх куткоў сьвету...

За некалькі дзён да гэтага я сустрэўся з "хімікамі" ў лёнданскім клюбе "Вільгельм IV". Мне не пашанцавала - у самы разгар размовы пра новы дыск і футбалістаў мой дыктафон ляснуў. Том і Эд паставіліся да праблемы з гумарам: "Якія дробязі! Што ўжо тады казаць нам, калі да здачы матэрыялу ў вытворчасьць застаецца некалькі дзён, а тут раптам у кампе накрываецца харддыск? З тэхнікай не дамовісься. Дакладна памятаем найгоршую ў нашай кар'еры гісторыю. Мы гралі канцэрт у Гішпаніі. Пачалі з "Hey Boy Hey Girl", і публіка літаральна ашалела. Мы ўжо бачылі, што гэта будзе адзін з найлепшых нашых выступаў. Аднак праз хвіліну згарэў сэквэнсар, і канцэрт быў скончаны".

"Фэнамэнальна: танцавальная музыка для фанатаў року, рок для фанатаў танцавальнай музыкі," - піша пра іх прэса. Яны, бадай, зьяўляюцца адзіным брытанскім гуртом, які публіка з аднолькавым энтузіязмам прымае як у танцклюбах, так і на рок-сцэнах па абодва бакі Атлянтыкі. Гэтаму спрыяе яшчэ і добразычлівая крытыка, якая бачыць менавіта ў ***CHEMICAL BROTHERS***, а не, скажам, у FATBOY SLIM вынаходнікаў танцавальнае моды 90-х гадоў, званай big beat'ам.

Жоўтая прэса, якой з гэтым гуртом даводзіцца цяжкавата - ён пастаянна знаходзіцца па-за скандаламі, - раней пісала галоўным чынам пра прыкольную прычоску Тома. Але Роўландз нядаўна абстрыг свае патлы і ўжо не выглядае як фанат новай хвалі брытанскага heavy metal.

"Не, не з-за таго, што ўсе зь яго сьмяяліся, - адказвае Эд на пытаньне пра калегаў хаер. - У Тома галава і так забітая шматлікімі справамі, каб яшчэ думаць пра прычоску".

CHEMICAL BROTHERS ніколі не надавалі вялікай увагі свайму выгляду. Калі сябры па сцэне - FATBOY SLIM альбо JOHN CARTER - заўсёды акружалі сябе прыгожымі дзяўчатамі, то неахайныя Том і Эд прытрымліваюцца хімічнай формулы "імідж - нішто, музыка - усё". Той жа Эд нават і не спрабаваў схаваць вялікую шчыліну паміж зубамі. Яны, як и 20 год таму, выглядаюць студэнтамі-гісторыкамі, якія болей цікавяцца плытамі й кніжкамі, чымся дзяўчатамі.

*******

Яны пазнаёміліся ў 1980 годзе падчас вучобы ў Манчэстэрскім унівэрсітэце. Абодва прыехалі ў Манчэстэр па аднолькавай прычыне - у той час там пульсавала жыцьцём клюбная сцэна, працаваў знакаміты клюб "Hacienda" - калыска брытанскай танцавальнай музыкі. Том выступаў тады ў шэрагах танцавальнага згуртаваньня ARIEL. Эд меў яшчэ адну прычыну, каб паехаць вучыцца ў Манчэстэр: як-ніяк, гэта радзіма ягоных улюбёных гуртоў - THE SMITHS і NEW ORDER. Таму вучоба была толькі зачэпкай. Замест таго, каб слухаць лекцыі пра Сярэднявечча, яны цэлыя дні праводзілі ў пошуках вінілавых кружэлак, а па ўікендах гралі да зьнямогі на імпрэзах у "Hacienda". "Сёньня гэты клюб не такі клёвы, як быў калісь," - смуткуюць "хімікі", згадваючы пра "былое".

"Першае знаёмства з наркотыкамі? - Эд крывіць пысу, зьбянтэжаны пытаньнем. - Э-э-э... Хіба, траўка... Як і ўсе малалеткі, мы некалі пыхалі". Мабыць, так яно й было, але журналісты пры кожнай нагодзе згадваюць, як ён з атупелым позіркам і з пляшкай мінэралкі ў руцэ ванітаваў на прыступках "Hacienda". "Нават калі ты вядзеш клюбнае жыцьцё, можна заставацца чыстым і здаровым, - ставіць кропку на чарговых пытаньнях у тую ж касу Эд. - Нам гэта ўдаецца. Зрэшты, нават ня памятаю, калі апошнім разам быў добра на падпітку".

Сёньня CHEMICAL BROTHERS называюць сябе "здаровымі геданістамі". А як жа ж! Толькі хіба выпадкова іх сябры, з падачы лідэра DUB PISTOLS Бары Ашварса, клічуць іх ня йнакш, як Tom-and-Ed? Маўляў, "I'm Tom-and-Ed, I'm out of my head" ("Я Том і Эд, у мяне ня ўсё ў парадку з галавой"). "Вой, гэта не пра нас! - махае рукамі Сіманс. - Гэта проста моўны жарт, звычайная зьява для лёнданскага слэнгу. Так толькі гавораць..." Канешне-канешне, Эд, мы верым!..

***

12 зь нечым гадоў яны сябруюць, 9 - зьяўляюцца адной музычнай камандай. Напачатку зваліся THE DUST BROTHERS, але калі вядомы па дысках BEASTIE BOYS і BECK амэрыканскі дуэт з гэткім жа імем, заснаваны значна раней, выставіў свае прэтэнзіі на брэнд, яны пераназваліся ў CHEMICAL BROTHERS. Няглездзячы на гэта, іх любімым альбомам па-ранейшаму застаецца "Paul's Boutique Beastie Boys", створаны... амэрыканскім гуртом THE DUST BROTHERS.

За год яны расстаюцца ня больш чым на два тыдні. За ўвесь час "браткі" пасварыліся, можа, разы тры. "З-за чаго? - задумаўся Том. - Ды якія там сваркі... Мы рэдка спрачаліся з-за музыкі, часьцей - з-за таго, у якім гатэлі спыніцца падчас турнэ".

"Мы атрымліваем задавальненьне ад агульнай справы, - падхоплівае Эд, - і таму нам лягчэй знайсьці паразуменьне ў жыцьці". Эд і Том сапраўды вераць, што яны вельмі падобныя. Яны нават не задумваюцца, якім было б іх жыцьцё, калі б кожны зь іх тварыў асобна. Апроч таго, яны настолькі шануюць супольную працу, што нават калі атрымліваюць прапанову зрабіць рэмікс ці дыджэйскую апрацоўку, то заўсёды працуюць разам.

Хоць раней "браткі" й рабілі рэміксы для THE PRODIGY, PRIMAL SCREAM ды THE CHARLATANS, сёньня яны нячаста гэтым займаюцца. Хіба што тады, калі іх пра гэта папросіць FATBOY SLIM, якога яны абодва лічаць адзіным сапраўдным сябрам у вялікім музычным сьвеце. Яны не паяўляюцца так часта, як раней, у клюбах за "грамафонамі". Часам толькі лівэрпульскі "Cream" ці лёнданскія "Turn Mills" ды "Fabric" карыстаюцца іхнымі дыджэйскімі паслугамі.

"І гэта дзіўна, бо ў мяне ўражаньне, што мы граем вельмі шмат, як ніколі раней, - кажа Эд. - А наагул, мы ня дужа хочам дыджэіць штовыходныя. Часам больш прыемна пасядзець дома зь сябрамі, чым бавіць усю ноч у клюбе. Акрамя таго, мы ня лічым сябе дыджэямі. Мы - крэатары. Цэлы тыдзень працуем у студыі. Таму ўікенд для нас - заслужаны адпачынак".

"Калі б вы былі сваімі ўласнымі мэнэджэрамі, то якую б рэкляму зрабілі для CHEMICAL BROTHERS?"

"Як ніхто, зможам наэлектрызаваць атмасфэру. Граем псыхадэлічную танцавальную музыку, пад якую едзе дах".

*******

У 1992 г., калі яны ўласнымі намогамі растыражавалі 500 асобнікаў першага сынглу "Song To The Siren" (які зьмяшчаў фрагмэнты знакамітай песьні "This Mortal Coil"), самае большае, пра што яны маглі марыць - гэта зацікавіць мясцовых дыджэяў. Ім нават не прыходзіла ў галаву, што праз некалькі год яны пяройдуць у разрад ідалаў сучаснай танцавальнай музыкі і змогуць сабе дазволіць запрасіць да супрацоўніцтва

героя іх маладосьці, лідэра NEW ORDER Бэрнарда Самнэра, будуць выступаць на вясельлі Фэтбой Сьліма і граць перад стотысячным натоўпам на фэсьце "Glastonbur".

...Альбому "Come With Us" чакалі ўсе. Выдавала на тое, што гэта будзе сэнсацыя. Посьпех запушчанага ў ратацыю 10 верасьня 2001 г. сынглу "It Began In Afrika" толькі падаграваў атмасфэру напярэдадні зьяўленьня "Come". CHEMICAL BROTHERS, як і штогод, апынуліся ў прэстыжнай сетцы найлепшых дыджэяў па вэрсіі часопісу "DJ". А калі яшчэ адзін сынгл - "Star Guitar" - упершыню зьявіўся на BBC Radio1, то дыджэю, абазнанаму ў танцавальнай музыцы Піту Тонгу, проста мову заняло. Шампанскае ўжо было пастаўленае ў лёд...

Але чаканы выбух апынуўся звыклым пшыкам. Дастаткова сказаць, што ў новым альбоме "браткі-хімікі" зьвяртаюцца да галасоў Бэт Ортан і Рычарда Ашкрафта ды карыстаюцца старэнькім кіслотным Roland 303 - і будзе зразумела, што зь сябе ўяўляе гэты твор. З кравецкай дакладнасьцю яны ўжо чацьверты раз шыюць той жа самы гукавы строй. Аднак цяпер строй гэны нам ужо цеснаваты...

***2LAB***










## "ХІМІЧНЫЯ" ПЛЫТЫ




**"Exit Planet Dust" (1995)**
Дэбют, які прынес CHEMICAL BROTHERS тытул "вынаходнікаў big beat'у" - моцныя, танцавальныя рытмы, злучаныя з заблытанымі гукавымі цытатамі, узятымі з рокавай паліцы. Плыта даказала, што сучасная танцавальная музыка не павінна быць бязмозглай тэхна-лупанінай.




**"Did Your Own Hole" (1997)**
Мост паміж мінулым і сучаснасьцю, які пралягае праз 70-я і 80-я гады. Ад бескампраміснага рок-н-рольнага шаленства, праз вар'яцкія часы фанку - да пачатку хіп-хопу. Гітарная музыка плюс ламаныя рытмы і рэзкія гукавыя перапады. На дыску ў якасьці госьця засьвяціўся, між іншым, лідэр OASIS Ноэл Галагер.




**"Brothers Gonna Work It Out" (1998)**
Быў выдадзены ў перапынку паміж "плянавымі" дыскамі. Гэта дыджэйскі трыб'ют Тома і Эда самім сабе: яны перапрацавалі тут уласныя творы з папярэдніх дыскаў, спалучыўшы іх з фрагмэнтамі SPIRITUALIZED, MANIC STREET PREACHERS ды MEAT BEAT MANIFESTO.




**"Surrender" (1999)**
Замест таго, каб выводзіць прагрэсіўную "электроніку" на новыя шляхі, "хімікі" вырашылі ў гэтым альбоме не адступаць ад традыцый, аднолькава выкарыстоўваючы як гітарную музыку, так і танцавальны boom. Да супрацоўніцтва, між іншым, былі запрошаныя музыкі з NEW ORDER, PRIMAL SCREAM, MERCURY REV ды OASIS. Дыск зьмяшчае знакаміты гіт "Hey Boy Hey Girl".




**"Come With Us" (2002)**
Рэцэнзію на "CWU" чытай у CD #1'02.

# HAPPY HARDCORE
## *студэнт+выкладчык*

***Ліля Рудая***

### *Гісторыя першая*

**Распавяла Саша. Чорныя, завітыя валасы, апранаецца ва ўсё чорнае. Поўнагадовы казярог.**

Гэты рэцэнзэнт мне адразу не спадабаўся! Слава пра яго хадзіла кепская, але хто мог чакаць такой жвавасьці ад амаль сямідзесяцігадовага акадэміка?
Мы зь сяброўкай прыйшлі да яго па нашыя рэцэнзіі. Ейную акадэмік ужо напісаў. Аддае: "Чытай!.. Што, добрая рэцэнзія? Тады цалуй!". І падстаўляе шчаку, потым другую, потым вусны. "Крута, - думаю. - А што ж мяне чакае?"
"Хадзем, - зьвяртаецца акадэмік да мяне. - Тваю яшчэ набраць трэба." Ідзем набіраць. У пакоі з кампутарам як на ліха больш нікога няма. Мне падумалася: "Напэўна, не адкручуся." І як ведала!
Не пасьпелі мы набраць два абзацы, як ён на мяне накінуўся. Самы час лямантаваць і біць яму пысу! М-да?! А скандал мне патрэбны? Мне патрэбная рэцэнзія! Адляпіўшы ягоныя рукі і адцершы сьліні з самых нечаканых месцаў, кажу: "Самі набірайце, я зайду праз паўгадзіны." А ён мне: "Я набіраць ня буду, аддам машыністцы, яна да заўтра набярэ." У мяне ж заўтра абарона! Дагандляваліся да таго, што я - набіраю, але ён сядзіць у самым далёкім куце. Ня самы горшы варыянт, калі ўлічваць, што ў працэсе гандлю мне было прапанавана набіраць, седзячы ў яго на каленях. Топлес.
Яшчэ абзац. Акадэмік вырашыў выклікаць захапленьне сваёй эрудыцыяй. Хвілінаў пяць распавядаў, спасылаючыся на клясыкаў, якімі прыгожымі і карыснымі ёсьць адносіны між дзяўчынай і "высакародным старцам". Напэўна, разьлічваў, што я ўзбуджуся і вазьму яго проста на стале! Але я неяк утрымалася. Мякка адхіліла прапанову паглядзець ягоныя любімыя карцінкі на кампутары, забрала сваю паперку і зьбегла.

### *Гісторыя другая*

**Распавёў Вадзім, 21 год. Высокі, кароткія мэляваныя валасы. Цялок.**

На трэцім курсе ў нас вяла занятkі асьпірантка. Прыемная такая дзяўчынка, не прыцiснутая вышэйшай адукацыяй. Карацей кажучы, мы ўпадабалі адно аднога. Маю на ўвазе яе і нашую групу. Калі мы запрашалі выкладчыкаў на мэдыюм, яе прыгадалі адной зь першых. На мэдыюме ўсё і адбылося.
Вечарынка дыхала сьпірытусовымі і таннага парфуму выпарэньнямі, потам і дымам ад цыгарэтаў. Гадзінаў адзінаццаць, народ танчыць, а нехта ўжо дрыхне фэйсам у салаце. Выходжу папаліць. Гляджу, мая дзеўчына стаіць з цыгаркай. З поўным правам падыходжу да яе ззаду, абдымаю, нераўнадушна праходжуся рукамі па вытачанай фігурцы, прыціскаю яе попку да... Яна рэзка абарочваецца... Майн гот! Гэта асьпірантка. (Добра хоць не загкатэдры, нізенькі грузны мужычок зь нявысьветленай арыентацыяй).
"Добры вечар", кажу, і дастаю руку ў яе з-пад спадніцы. Яна: "Экспэрымэнтуеце, малады чалавек?", - і зашпільвае блузу.
Ясна, што я рэтыраваўся за стол і пастараўся накачацца як мага якасьней. Назаўтра сябры распавялі, што перастараўся.
Недзе бліжэй да лета адзін з выкладчыкаў зьяжджаў па справах за мяжу. На практычных занятках ён абвесьціў пра гэта групе, але хутка зьбіў хвалю неўтаймаванай студэнцкай радасьці: сказаў, што пакідае нас сваёй вучаніцы для таго, каб тая правяла практычныя заняткі і такім чынам завершыла курс. "Вось Вы, Вадзім, - кажа, - схадзіце зараз на катэдру і дамоўцеся зь ёй наконт першых заняткаў".
Прыходжу на катэдру, адчыняю дзверы... і бачу сваю асьпірантку. Язык у мяне часткова адняўся, а працоўная яго частка ўпарта не жадала адлеплівацца ад нёба. "Д-добры дзень... Адам Рыгоравіч сказаў, што мы з Вамі будзем п-працягваць практычныя заняткі". Яна драпежна ўсьміхнулася: "Калі Адам Рыгоравіч сказаў, што ж..." "А калі пачнем?" - пытаюся. "А зараз!"
У той жа момант яна ўсаджваецца на стол, хапае мяне за папругу, прыцягвае да сябе і пачынае цалаваць як апантаная. Потым абхоплівае нагамі (спадніца ледзьве не на шыі) і лезе мне ў джынсы. Што б вы зрабілі на маім месцы? Вядома ж, я пачаў ёй дапамагаць! Праўда, шмат мы зрабіць не пасьпелі: на самым цікавым месцы адчыніліся дзьверы і ўвайшла сакратарка.

### *Гісторыя трэцяя*

**Распавяла Лена, блізьняты. Бляндынка з уражваючай зьнешнасьцю. 20 год.**

Неяк напачатку ліпеня я здавала... ok, пераздавала іспыт. Другі ці трэці раз: прадмет быў яўна ня мой - давялося яго заморваць.
Пацiху выкладчык апытаў і паадпускаў усіх студэнтаў, у аўдыторыі засталіся толькі я і ён. Мой позірк увесь час скіроўваўся на ўласныя каленкі, якія былі ўпрыгожаныя разгорнутым падручнікам па кампаратывістыцы. Заставалася перанесьці ў аркуш адказу апошнія сказы. З выкладчыкам нас разьдзяляў шэраг партаў і крэслаў, у паветры навісьлі задуха і лянота, уласьцівыя хіба што арабскай ночы. Вам страшна? І мне не.
Падымаюся ісьці адказваць, а ён мне: "Пасядзіце яшчэ хвілінку, я зараз, толькі скончу запаўняць дакумэнты". І шалохае пацiху за выкладчыцкім сталом сярод кветак (букетаў мы яму нацяглі ажно пяць штук).
Сяджу. Чакаю. Горача. Сьцягнула зь сябе кофту, сяджу ў майцы на брэтэльках, папраўляю валасы. І тут мае шпоры пасыпаліся на падлогу. Вядома ж, я лезу па іх, вядома ж, стараюся рабіць выгляд, што нічога не адбываецца. Уявіце сабе маю позу: левая рука на стале, правая амаль на падлозе, тэк'с, яшчэ трошкі.
Раптам адчуваю, што вывальваюся са сваей майкі.
Падымаю вочы на прэпода, гляджу - і зь ім жа нешта здарылася: ён дробна затросься, закаціў вочы, чмыхнуў і неяк адключыўся. Выкладчык - чалавек не стары, але нейкі дзіўны і трухлявы. Таму мне прыходзіць у галаву, што зь ім здарыўся які-кольвек прыступ, кшталту інфаркту ці, найгорай, падучкі. Падбягаю да яго, трасу за плячо, пытаюся: "Вам нядобра?!", а сама адчуваю нейкі дзіўны пах. Пах сьпермы.
Апускаю вочы...
Акурат з шырынкі тырчаў нейкі недарэчны на іспыце прадмет. Нават давялося палыпаць вачыма, каб упэўніцца, што я сапраўды бачу чэлес.
Як той казаў, what can I do? Выбегчы зь лямантам з аўдыторыі - нагоды пакуль не было. Цягнуць выкладчыка ў дэканат - нейкая дурка. Тым больш, што першым ачуняў ён. Зьбялеў, пачырванеў, апусьціў вочы долу і пачаў прасіць прабачэньня.
Я зразумела, што наконт іспыту мне хвалявацца больш ня варта.

студэнт+выкладчык
HAPPY HARDCORE



# Абшчына вольных агентаў



**Царква Сьвятых Апошняга Дня, больш вядомая як царква мармонаў, мае праблему іміджу. Па колькасьці й сіле зьвязаных зь ёю аблудных мітаў, што існуюць у масавай сьвядомасьці Захаду, з рэлігіяй мармонаў можа параўнацца хіба што іслам.**

## Хрысьціянскі Талібан?

На першы пагляд, марманізм - зьява дзіўная, а то й небясьпечная. Галоўнае, чым вядомы ён непасьвечаным, - гэта, вядома ж, мнагажэнства. У былым СССР пра мармонаў упершыню даведаліся з сэрыялу пра Шэрлака Холмса, дзе рэлігійны маньяк перасьледаваў жонку, зьбеглую ад дзікаватага рытуалу. У Амэрыцы ведаюць, што царква мармонаў афіцыйна выраклася мнагажэнства ў 1890 годзе, а ў 1896-м гэтая забарона сталася часткай канстытуцыі Юты - як умова прыёму штату ў фэдэрацыю ЗША. Таму да пытаньня мнагажэнства амэрыканцы ставяцца з гумарам: прыгадайма хаця б словы старой джазавай песенькі пра "задавальненьні, вядомыя толькі мармонам зь Юты", ці "палігамнае піва", якое рэклямавалі на Захадзе ЗША словамі "навошта абмяжоўвацца адной?" (пляшкай, разумееце).



Але часам сьмешкі саступаюць месца трывозе. У забытых цывілізацыяй далёкіх міжгор'ях Юты мнагажэнства практыкуецца і да сёньня радыкальнымі сэктамі, якія налічваюць каля 30 тысяч адэптаў. Патаемнае жыцьцё гэтых сэктаў зрэдку вырываецца на паверхню, калі іх прадстаўнікі трапляюць на лаву падсудных за двужонства, сэкс зь непаўналетнімі (замуж тамака пачынаюць выдаваць з 13 гадоў) або за няздольнасьць забясьпечваць сям'ю. Адзін такі падсудны стаўся нздатным пракарміць 29 дзяцей ад пяцёх жонак, а другі моцна зьбіў дачку - тая адмаўлялася выйсьці за ўласнага дзядзьку.

Сама царква мармонаў не зьвязаная з гэтымі сэктамі, але такія навіны ствараюць "дрэнны фон". Дадаецца раздражненьне аматараў добрага адпачынку законамі штату Юта, дзе алькаголь забаронена рэклямаваць, дый свабодна ўжываць яго можна толькі дома ці ў спэцыяльных прыватных клюбах. Лібэральную публіку турбуе глыбокі кансэрватызм мармонаў: яны ўстрымліваюцца ад дашлюбных зносінаў, ня п'юць гарбаты, кавы й кока-колы, адкрыта не прызнаюць гомасэксуалізм і шчыра вераць у выратавальную ролю асноўнай ячэйкі грамадзтва. Камунальныя звычкі мармонаў выклікаюць у некаторых асацыяцыі з камунізмам. Некаторых турбуюць эканамічныя дасягненьні царквы, якая валодае больш чым 30 мільярдамі даляраў у прыбытковых актывах, улучаючы сюды ж агульнанацыянальную сетку харчовых крамаў Safeway. Здольнасьць мармонаў, якімі ёсьць 70% насельніцтва Юты, кантраляваць 90-100% афіцыйных пасадаў штату ставіць пад пытаньне канстытуцыйны прынцып адлучэньня царквы ад дзяржавы.

Дадайце сюды выключнае права вузкай групы царкоўных лідэраў на прыняцьце ўсіх рашэньняў - і непрыемнага пытаньня не пазьбегчы. Ці не зьяўляюцца мармоны хрысьціянскай вэрсіяй Аль-Каіды? У наяўнасьці ўсе прыкметы самакіраванай, самадастатковай сакрэтнай арганізацыі. Ёсьць нават трывожная тэндэнцыя да сусьветнага панаваньня. У 2001 годзе царква налічвала 11 мільёнаў чалавек, зь якіх меней за 2 мільёны жылі ў штаце Юта, і пяць мільёнаў - столькі ж, колькі і юдэяў - у ЗША. Астатнія месьцяцца за мяжой, і іх колькасьць расьце. Экспэрты прадказваюць 50 мільёнаў адэптаў марманізму да 2040 году і каля сотні мільёнаў да 2080-га...

## Шлях да дасканаласьці

На першы погляд мармоны могуць падацца агрэсіўнымі: прапагандыстаў у бездакорна скроеных чорных строях можна спаткаць нават у Менску. Але яны далёкія ад фундамэнталізму. У адрозьненьне ад правахрысьціянскіх канфэсіяў, ісламскіх фундамэнталістаў і артадаксальных юдэяў, у тэалёгіі мармонаў адсутнічаюць дух месіянства і ірацыянальная ўпэўненасьць у тым, што дабрабыт на зямлі настане толькі тады, калі ўсе яе насельнікі будуць вызнаваць дадзены культ. Наадварот, мармоны не навязваюць сваіх поглядаў тым, хто імі не цікавіцца. Сапраўды, царква прыняла рашэньне не прапагандаваць свае погляды ў часе Алімпійскіх гульняў.

Адсутнасьць месіянскага духу абумоўленая ідэйным адрозьненьнем марманізму ад астатніх монатэістычных канфэсіяў. Іншыя галіны хрысьціянства, а таксама юдаізм і іслам даводзяць, што пасьля сьмерці чалавек апынаецца ў прысутнасьці Бога. Мармоны ж вераць, што тут толькі пачынаецца "адвечны рух да Бога" - павольны й доўгі шлях да дасканаласьці. Больш таго, заснавальнік культу Джозэф Сьміт даводзіў, што Бог і сам быў калісьці такім, як усе мы. Проста ён ужо дасягнуў дасканаласьці.









## Мы наш, мы новы...

Ня верачы, што паўсюднае панаваньне іх культу прынясе на зямлю рай, мармоны імкнуцца пабудаваць яго ўласнаручна. Царква стварыла сыстэму сацыяльнае абароны, якая пераўзыходзіць па якасьці дзяржаўны сацыяльны сэктар. Кожны мармон закліка246 ахвяраваць 10% свайго прыбытку ў сацыяльны фонд царквы, а таксама ня есьці дзьве вячэры на месяц, аддаючы адпаведную суму ў фонд мясцовай парафіі. Толькі ў Юце адна гэтая завядзёнка прыносіць каля 200 мільёнаў даляраў штогод. Сыстэма разьмеркаваньня грошай трымаецца выключна на даверы. Фонд належыць парафіі, у якой усе адно аднога ведаюць і лідэр якой - амаль заўсёды валянтэр - мае права выдаваць буйныя сумы (аж да $500, а часам і большыя), як сам знае. Выпадкаў крадзяжу гэтых фондаў гісторыя мармонства ня ведае.

Парафія вольная і ў выбары сродкаў дапамогі. Калі дзяржава выдае беспрацоўным халяўныя грошы, то мармоны чыняць канкрэтную дапамогу. Часопіс Economist распавядае пра характэрны выпадак. Жанчына-мармонка засталася бяз працы: офіс быў далёка, а грошай на машыну не было. Тады парафія набыла ёй аўтамабіль, каб яна магла сама зарабляць грошы. Тыя, хто дасягнуў мяжы беднасьці, могуць проста прыйсьці да лідэра парафіі - той выпіша сьпіс патрэбных тавараў і выправіць у бліжэйшы Safeway за бясплатным харчам. Калі ж усяго гэтага мала, кожны мармон гатовы аддаць да 40 гадзінаў у тыдзень на грамадзка-карысную працу.

## Вольны агент

Аднак, нягледзячы на такія сацыяльныя клопаты, мармонаў цяжка западозрыць у камунізме. Яны не імкнуцца адмяніць прыватную ўласнасьць, як тое робіць іншы культ - марксызм. Мармоны самі зарабляюць капіталістычныя грошы, каб потым выдаткоўваць іх на дасягненьне сваіх сацыяльных ідэалаў. Царква падтрымлівае прыватную ўласнасьць і заахвочвае прадпрымальніцкую ініцыятыву. У тэалёгіі мармонаў жыцьцё на зямлі - час праверкі чалавечае душы. Каб выпрабаваць душу, чалавек мусіць зрабіцца "вольным агентам", то бок самастойна рабіць свой выбар.

Прадпрымальніцкі дух мармонаў ня ведае межаў.

THE CHURCH OF JESUS CHRIST OF LATTER-DAY SAINTS

Вера ў "вольнага агента" ўплывае і на палітычныя погляды мармонаў. Каб не абмяжоўваць свабоду самавыяўленьня чалавека, функцыі ўраду мусяць быць зьведзеныя да мінімуму. Вядома ж, доўгія гады падзяленьне функцый рэлігійнае абшчыны і дзяржавы было ня так заўважнае ў маланаселенай Юце, чым і тлумачыцца факт масавае прысутнасьці мармонаў у органах кіраваньня штату. Але па меры таго, як ізаляцыя Юты зьнікае, мармоны не высоўваюць прэтэнзіяў на дзяржаўны кантроль. У адрозьненьне ад правахрысьціянскіх палітыкаў-баптыстаў з паўднёвых штатаў, палітыкі-мармоны ня робяць веру каньком сваіх перадвыбарчых баталіяў. І хоць бальшыня мармонаў належыць да рэспубліканскай партыі, ініцыятывы іх палітыкаў часта маюць надпартыйны характар. У прыватнасьці, сэнатар Хетч, хоць і назваў сваіх апанэнтаў-дэмакратаў "партыяй гомікаў", але сам зрабіў для геяў больш за тых жа дэмакратаў, дабіўшыся прыняцьця больш жорсткага закону па прыпыненьні так званых "злачынстваў нянавісьці" супраць мяншынстваў. Хетч таксама правёў у Кангрэсе законы па дапамозе інвалідам, ахове здароўя дзяцей, адпачынках па хваробе і дапамозе хворым на СНІД.




## Рэлігійная альтэрнатыва

Менавіта ў параўнаньні з фундамэнталізмам праяўляецца сутнасьць і патэнцыял марманізму. Мармоны не імкнуцца заганяць людзей у свой рай любымі мэтадамі. Яны толькі хочуць прайсьці духоўную праверку на бясконцым шляху самаўдасканаленьня - як у гэтым сьвеце, так і пасьля яго.

Магчыма, гэтым абумоўлены рост папулярнасьці марманізму ў сьвеце. А можа - тым, што пры ўсіх абмежаваньнях па такіх важных для моладзі пунктах, як сэкс і алькаголь, менавіта маладыя ахвотней за ўсё нясуць ідэі мармонаў у самыя аддаленыя ад Амэрыкі краіны? Калі так, то рэлігію гэтую насамрэч можа чакаць вялікая будучыня. Як сказаў знаўца марманізму прафэсар Ельскага ўнівэрсытэту Харальд Блум, "мармоны, як габрэі ў свой час, ёсьць рэлігіяй, якая ператварылася ў нацыю". Ці мае прафэсар рацыю, пакажа час, а ваш карэспандэнт у гэтую нацыю ўступаць пакуль ня мае намеру. Яго чакае ў лядоўні пляшачка цалкам манагамнага чэскага піва.

***Сяргей Кароль (ЗША)***



# ПАНЯДЗЕЛКАВЫЯ РАНКІ. BERLINALE 2002

**Катарына Яновіч**

Бэрлінская раніца 6 лютага. Я згубілася сярод пасажыраў падземкі, зьлілася з гэтым "мульці-кульці" натоўпам туркаў, палякаў, лацінасаў і немцаў (менавіта ў падземцы здаецца, што апошніх ня так ужо і шмат!). У вагоне мы дапіваем каву з пляcтмасавых кубачкаў і пад'ядаем канапкі; яшчэ не да канца прачнуліся, але ўжо ўтаропіліся ў газэты (нямецкая традыцыя!) і ў маніторы "Вокны Бэрліну", што вісяць у вагоне і перадаюць кароткія, часам "жаўтаватыя" рэпартажы пра жыцьцё сталіцы. Бязглузды шэраг карцінак і тэкстаў (вайна ў Аўганістане - знойдзены маньяк-забойца - дзіцячы фэст - зялёныя пратэстуюць - чэмпіянат па футболе) перарываецца фоткай велізарнай чаргі "Кінафэны стаяць перад касамі гадзінамі". Мусіць, пачынаецца Бэрлінале. Здагадку майго соннага розуму пацьвярджае размова суседзяў па вагоне:

- Чуў, што на афіцыйных паседжаньнях Бэрлінале забаронена паліць?
- ?
- Так-так, там у нейкага тыпа ў журы алергія на пах тытуню!
- У каго?
- А халера яго ведае. Але паліць дазволена толькі Катрын Дэнёў: яна ж смаліць бесьперапынна...

Я актывізуюся, выходжу з вагону і няшпарка крочу ў самае сэрца фэстывалю, на Патсдамскую плошчу - новапабудаваны квартал са шкла і мэталу ў цэнтры Бэрліну. Жыцьцё тут і праўда пульсуе: людзі, рэкляма, бясконцая какафонія сырэнаў самаходаў.

Здабыла праграму фэсту. Высьвятляецца, што за дзесяць дзён у рамах фэстывалю адбудзецца 700 паказаў 400 гульнёвых і дакумэнтальных фільмаў, якія, па падліках арганізатараў, мусяць наведаць паўмільёна гледачоў.

Тут і ўзьнікаюць праблемы.

Праблема №1: што ж менавіта глядзець?

Праблема №2: кошты на квіткі - ад 6 да 18 эўра. Насамрэч, 6 эўра - нармалёвы кошт квітка ў кінатэатар вышэйшай клясы, але ва ўмовах, калі паглядзець хочацца як мага болей, сума атрымліваецца істотная.

Праблема №3: прынамсі на сёньня ўсе квіткі распраданыя.

І стаю я сярод ўсяго гэтага балю-карагоду як тая Папялушка...

Фея зьявілася ў выглядзе двух амэрыканскіх рэпарцёраў зь відэакамэрай. Яны тыцнулі мне ў рукі штодзённую фэстывальную газэту, умомант гэта зьнялі, падзякавалі "нямецкаму боку" ў маёй асобе і хутка зьніклі. Папялушка так і не пасьпела ні ўзрадаваць, ні расчараваць сваіх феяў тым, што яна зусім не "нямецкі бок". "Прымай разнастайнасьць" - дэвіз "Бэрлінале 2002". "І жыві ўпэўненасьцю" - дадаю я

***

Яшчэ ўчора спрабавала разабрацца, куды варта схадзіць. На сайце Бэрлінале глядзела праграмы і анонсы фільмаў.

Конкурсная праграма - душа фэстывалю! Блізу 23 стужак з Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Італіі, Францыі, Гішпаніі, Швэйцарыі, Грэцыі і Японіі. Някепска!

Пазаконкурсная праграма: 9 непрадказальна розных фільмаў. Ад новай галівудзкай прадукцыі "Прыгожы розум" Рона Ховарда з Расэлам Кроў і Джэніфэр Конэлі да клясычнага "Вялікага дыктатара", які закрывае праграму. М-м-м...

А таксама сэкцыі "Панарама" (розныя краіны, тэмы, стылі), "Форум маладога кіно", "Дзіцячае кіно", "Пэрспэктывы нямецкага кіно", "Рэтраспэктыва заходне- і ўсходнеэўрапейскага кіно".

***

Сёньня не зьдзіўляюся, калі даведваюся, што большасьць фільмаў конкурснай праграмы для мяне ўжо недасяжныя - няма квіткоў. Здаецца, бэрлінцы ацанілі жаданьне новага дырэктара фэстывалю Dieter Kosslick сумясьціць несумяшчальнае: галівудзкіх прэтэндэнтаў на блёкбастэры з рэтра, а значыць, элітарнымі фільмамі, дзіцячыя фільмы з моладзевай альтэрнатывай і г.д. Але ўся прэса адзінагалосна пяе: Бэрлінале стаўся ўнівэрсытэтам талентаў. І гэта ўжо адзнака прафэсіяналізму недасяжнага роўню, дзякуючы якому даруецца ўсё.

Зрэшты, ня ўсё так кепска. Ёсьць традыцыйны пошук "лішняга квіточку" за некалькі дзясяткаў хвілінаў непасрэдна перад гадзінай ікс. У гэтыя паўгадзіны Патсдамэр-пляц шарахаецца з боку ў бок, каб перапрадаць (заўважу, па тым жа кошце), часам памяняць ці нават падараваць квіткі. (Адкіньце фантазіі - прагматычныя бюргеры дораць толькі бясплатныя квіткі, прызначаныя для прэсы і інш.) Пры гэткіх рынкавых махінацыях кінаманы пасьпяваюць падзяліцца ўражаньнямі, распавесьці адно аднаму навіны і чуткі - карацей, ахвяры Люмьераў робяцца неад'емнай часткай усяго дзейства і паводзяць сябе лёгка і свабодна, як дзеці. Жару паддае ўсталяваны на галоўнай плошчы Бэрлінале манітор, куды трансьлююцца ўсе прэсавыя канфэрэнцыі. І мы бачым, што мадам Дэнёў сапраўды паліць безь перапынку, а Арнольд Шварцэнэгер губляецца-ткі ў спробах аднавіць свой аўстрыяцкі акцэнт.

***

Фантастыка! Я абсалютна выпадкова трапіла на "Ранкам у панядзелак" грузіна Атара Іасэліяні. Па шчырасьці, з насьцярогай стаўлюся да фільмаў рэжысэраў, якія ў свой час пакінулі заходнія межы "імпэрыі зла" - няспраўджаныя на Захадзе надзеі і мары абвастраюць комплекс мэсіі (гл. Канчалоўскага). Але трыццаць год, якія сп. Іасэліяні пражыў у Францыі, зрабілі грузінскага шляхціца яшчэ большым эстэтам. Разумным эстэтам. Прыгожы, вельмі элегантны з заўсёднай цыгарэтай у роце і францускай мовай у адказ на расейскую падчас прэсавай канфэрэнцыі.

Я выходзіла з залі пасьля фільму і чула, як мая душа сьпявала "Алілюя!", а цела дыхала невыносным "шчасьцем" быцьця ўсімі клетачкамі скуры.

Герой "Ранкам у панядзелак" - францускі сталявар-эстэт, які аднойчы кідае сям'ю, працу і едзе ў Вэнэцыю, дзе сустракаецца са сваім аднагодкам-італійцам. Той роўна на дзень сыходзіць з працы папіць віна зь сябрамі і адчуць сябе вольным...

Фільм - як ласкутная коўдра: уражаньні і падзеі зьмяняюцца так парадаксальна і нечакана, так натуральна, як гэта здараецца толькі ў крэатыўнага чалавека, што глядзіць на сьвет з пэўнай доляй іроніі і любові.

Атар Іасэліяні мала адрозьніваецца ад свайго героя. Рэжысэр выступаў па сэансе перад публікай, сказаў колькі простых словаў па-францускy, паўсьміхаўся. І гэтага было дастаткова, каб я ў яго таемна закахалася. Двое немцаў побач бурчалі: "Што гэта за выступленьне, нічога не растлумачыў...". А мне было сьмешна: як можна растлумачыць словамі тое, як бачыш сьвет?

- Я хацеў паказаць у сваёй камэдыі тое, што ня можам перажыць у цяперашнім сьвеце. Людзі, якія жывуць у цывілізацыі масаў, надта самотныя, але тое вялікая праблема - як і куды з гэтай цывілізацыі зьбегчы.

Некалі на сьвеце жылі двое бандзюгаў - Калюмб і Вэспуччы. У пошуках зямнога выраю яны адкрылі новы кантынэнт, жыхароў якога ператварылі ў нявольнікаў. Сёньня ўвесь сьвет падобны да таго кантынэнту. Калісьці, жывучы ў Грузіі, я марыў, як па падзеньні камунізму патраплю ў вырай. Сталася адваротнае. Пра гэта мой фільм.

***

Немцы здольныя даводзіць любую дыскусію да абсурду. Гэта лішні раз прадэманстравалі абарыгены ліпавай прадстаўніцы нямецкага боку на праглядзе ў рамках пазаконкурснай праграмы "Хваля новага нямецкага інтэлектуальнага кіно". Фільм Аляхандра Клуге "Патрыётка"(1979) - дзьвюхгадзінная інтэлектуальная гамабздра (у слоўніку бэрлінскіх студэнтаў беларускага паходжаньня "гамабздрыць - безвынікова, грузна размаўляць") пра пошукі больш патрыятычнай нямецкай гісторыі. Шукала яе крыху шалёная настаўніца гісторыі то ў мэдінстытуце, то на паседжаньнях сацыялдэмакратаў. Карацей, песьня ні пра што. Адзінае - сам рэжысэр павесяліў. Апрача паўгадзіннай гамабздры перад пачаткам і такой жа па хранамэтражы, падчас прагляду сп. Клуге крыкам крычаў: "Гэй, папраўце гук!!!", чым нагадваў "несазнацельных" беларускіх школьнікаў, ласых парушыць у цемры кіназалі інтэлектуальны спакой дарослых гледачоў.

А пасьля сп. Клуге публічна прызнаўся, што варта было рабіць фільм хвілін на 20-30 карацей.

***

Адзіным месцам, дзе хоць краем вуха пачула пра Беларусь, стаўся "Форум маладога кіно": 71 стужка з 27 краінаў сьвету, у тым ліку з краінаў ня самых моцных кінатрадыцыяў - Марока, Тунісу, Віетнаму.

Паколькі праблемы Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы не цікавяць журы Бэрлінале ня першы год, а краіны Ўсходу стаяць у фаворы, можна лічыць, што нам пашэнціла. Матахішы Сэіхі, японскі рэжысэр, прэзэнтаваў стужку "Аляксей і крыніца" пра жыхароў вёскі Будзічы, якая месьціцца ў радыяцыйнай зоне. Крыху патасна і тужліва, але гэта выдаткі японскай карціны сьвету і беларускай рэчаіснасьці.

Dieter Kosslick абяцае, што наступным разам на Бэрлінале адмыслова будуць запрашацца маладыя і пэрспэктыўныя рэжысэры, у тым ліку з Усходняй Эўропы, каб павучыцца ў мэтраў. І мне лёгка ўявіць у бэрлінскім антуражы выпускнікоў менскай Акадэміі мастацтваў. Прынамсі, фактура для іх будзе знаёмая - часам Бэрлін так нагадвае Менск.

Асабліва панядзелкавым ранкам.

**Залаты Мядзьведзь** - "Душа выраю" (рэж. Хаяо Міяцакі) і "Крывавая нядзеля" (рэж. Паўль Грынграс)

**Вялікі прыз журы, Срэбны Мядзьведзь** - "Палова лесьвіцы" (рэж. Андрэас Дрэзэн)

**Срэбны Мядзьведзь за лепшую рэжысуру** - "Ранкам у панядзелак" (Атар Іасэліяне)

**Срэбны Мядзьведзь лепшай акторцы** - Хэлі Бэры за ролю ў фільме "Баля монстраў" (рэж. Марк Форстэр)

**Срэбны Мядзьведзь лепшаму акторскаму ансамблю за фільм** - "8 жанчынаў" (рэж. Францсуа Азон)



# Здаць "на правы"

**Калі, як не ў навучальны час, праварочваць асабістыя справы: хадзіць на дыскатэкі, зарабляць на жыцьцё, засвойваць, нарэшце, розныя клясныя рэчы. У мяне даўно высьпявала жаданьне навучыцца кіраваць самаходам. І ў гэтым навучальным годзе я вырашыла прайсьці курсы кіроўцаў.**

## Мэдагляд

Каб патрапіць на навучаньне, трэба прайсьці мэдагляд у 24-ай гарадзкой паліклініцы спэцмэдаглядаў (шыльда напісаная па-беларуску!) на Ульянаўскай, 32. Але не сьпяшайцеся адразу ў паліклініку - пры сабе трэба мець шэраг дакумэнтаў: пашпарт, вайсковы білет ці прыпісное пасьведчаньне (для хлапцоў), выпіску з амбуляторнае карткі са сваёй паліклінікі, завераную круглай (а не якой-небудзь квадратнай!) пячаткай, два фотаздымкі 3х4, даведкі для асобаў, якія стаяць на ўліку ў псыханэўралягічным ці наркалягічным дыспансэрах, даведку ад гінэколяга (для дзяўчат) і суму ў 2.008 рублёў (прыкладна 1,5 у.а. на момант напісаньня артыкулу), каб аплаціць паслугі мэдычнага дасьледаваньня. Тыя, у каго пасаблены зрок, мусяць мець даведку ад акуліста на нашэньне акуляраў ці кантактных лінзаў. Тэлефон паліклінікі: 227-66-68.

У самой "паліклініцы для кіроўцаў" трэба прайсьці нэўрапатоляга (дасьледуе каардынацыю рухаў), отлярынголяга (лекар "вуха-горла-нос" заглядаў чамусьці толькі ў вушы), афтальмоляга (вочны доктар), тэрапэўта (нутраных хваробаў доктар). Пэрсанал працуе апэратыўна. Разам з паперкай, дзе адзначаюцца вынікі мэдагляду, з кабінэту ў кабінэт носяць і ваш пашпарт: каб, барані Бог, ніхто іншы ня здаў за вас аналізы.

***Парады***

***Здаваць, як бы ні было цяжка. Ад чатырох да дзесяці разоў нармалёвы курсант хоча кідаць гэтую справу. Адганяйце ад сябе гэтыя думкі. Прарвемся!***

Тыя, хто не дасягнуў 18-ці гадоў, а сярод першакурсьнікаў такія ёсьць, прадстаўляюць даведку ад падлеткавага псыхіятра (вул. Кунцаўшчына, 22) і форму 25-ю з падлеткавага кабінэту сваёй паліклінікі. Асобы, якія пражываюць у Менску менш за год, прадстаўляюць даведкі з псыханэўралягічнага (вул. Бехцерава, 3) і наркалягічнага (вул. Гастэлы, 16) дыспансэраў.

## Прыгоды

Яны пачаліся адразу. Да ўрачоў я не зьвярталася ўжо некалькі гадоў (цьфу-цьфу-цьфу), таму ўласная картка зьявілася на мае вочы цнатліва чыстай і цудоўна белай. Ну дык напішуце ж вы, што чалавек да вас не зьвяртаўся! Не, усё ня так проста. Трэба прайсьці шэраг абавязковых кабінэтаў - напрыклад, флюараграфічны. Добра... Аднак апарат зламаўся і будзе адрамантаваны толькі праз некалькі дзён, а накіраваць гэтыя злосныя цёткі могуць толькі ў невядомае (ці, калі не пашчасьціць, яшчэ далей).

Ня буду распавядаць пра стаяньне ў чэргах і пра тое, што чатыры разы ў розных месяцах трапляла на тэхнічны перапынкі (чым яны там займаюцца?!). Але найвышэйшым пілятажам я лічу загад адлоўліваць усіх бязьдзетных дзяўчат на прадмет "рэзэрваў родаў". Ня так даўно ў паліклініцы была спушчаная новая дырэктыва, што ўсе жанчыны дзетароднага ўзросту, у якіх мала (на погляд дзяржавы) дзяцей альбо няма іх наагул, адносяцца бязь іхнае згоды да так званай катэгорыі "рэзэрваў родаў", што само па сабе ёсьць надта абразьлівым для дзявочае годнасьці. Атрымліваецца, што дзяўчына абавязаная дзяржаве, якая яе вырасьціла і паставіла на ногі, нарадзіць вызначаную колькасьць грамадзянаў. Так што давядзецца даказваць мэдпэрсаналу, што вы чалавек, а ня нейкія там "рэзэрвы".

## Кошты

***Узімку здаваць цяжэй, бо не відаць разьметкі, а ў цемры - і знакаў. Абірайце больш цёплы пэрыяд!***

Кошт курсаў вагаецца ад 80 да 115 умоўных адзінак. Працяглaсьць - паўтара-тры месяцы. Можна выбраць і форму навучаньня: ранішняя, дзённая, вечаровая, выходная.

Але сума гэтая не канчатковая: сьмела дадавайце сюды кошт бэнзыну (каля двух даляраў за адзін занятак), розныя кампутаровыя паслугі, аплату тэарэтычнага і практычнага іспытаў, што пацягне на 7-8 у.а. Кампутаровая праграма абыдзецца прыблізна ў 3 у.а., а кошт працы кампутарніка па ўсталяваньні яе на ваш PC залежыць ад прыгажосьці вашых вачэй ці ад напоўненасьці кілішка. Дадайце сюды копіі розных каштоўных матэрыялаў, кошт навучальнага дапаможніка і г.д. Гэтыя лічбы рэальныя, калі вы здаяце зь першага разу (а такіх геніяў каля 20-30%). Калі не - працэс ўкладаньня грошай робіцца бясконцым...

## Навучаньне

Заняткі праходзяць як у школе: навучэнцы сядзяць за партамі, ім даюць заданьні на дом, часта выклікаюць да дошкі. Здараецца, што ставяць двойкі. А за пяць пропускаў вас могуць адлічыць!

Акцэнт робіцца на хуткасьць засваеньня, а не на тое, каб максымальная колькасьць слухачоў зразумела матэрыял. Як казаў наш выкладчык (вельмі разумны чалавек - кандыдат навук), "вам трэба здаць, а не зразумець!".

"Правілы дарожнага руху" сталі маёй настольнай кнігай і маёй немарасьцю на тэрмін курсаў. Бедных, нас замучылі пытаньнямі і кантрольнымі. Было вельмі складана, бо студыёзусы мусілі забыцца на сваю патэнцыйную вышэйшую адукацыю і запамінаць літаральна, "па-дубовому". Усялякае інтэрпрэтаваньне, пошук рацыянальнасьці згубілі сэнс. Такія вось трылеры.

***Яшчэ адна парада - пішэце шпоры, у тым ліку й на руках. Выкладчык вам падкажа, як гэта рабіць лепей і што занатоўваць (яны зацікаўленыя ў высокім адсотку здачы). Падгледзець у ДАІ можна. Праверана.***

## Праца "на лініі"

Неабходным складнікам навучаньня ёсьць 15-цігадзінавае стаяньне са сьвістком на перакрыжаваньні (тры разы па пяць гадзінаў). Гэта завецца "працай на лініі". Дзяўчат мы асабліва на перакрыжаваньнях ня бачылі, значыць, існуюць шляхі абмінуць гэтую прыступку ў навучальным працэсе (я такі шлях знайшла). Знаёмец пасьля працы на лініі казаў, што са звычайнага адмарозка ён ператварыўся ў сапраўднага Сьнежнага Чалавека. Карацей, стаяць на лініі халодна, нецікава і малапрадуктыўна.

***Увосені назіраецца наплыў курсантаў, а пасьля Новага году наплыў зазвычай спадае. Таму карэктуйце свае пляны з улікам гэтае тэндэнцыі.***

Першапачатковыя навыкі кіраваньня вы набываеце на адмысловай пляцоўцы, дзе навучаецеся ў кампаніі такіх самых "імбрыкаў". Заняткаў па пляне каля дванаццаці. Некаторым гэтае колькасьці не стае, таму яны бяруць дадатковыя гадзіны. Прыватны ўрок пацягне на 8-10 зялёных за стандартныя гадзіну і сорак хвілінаў.

## Мэдыцына

Адна з частак навучаньня - мэдычная. Перш за ўсё нас усьцешылі тым, што ў аптэчцы кожны кіроўца мусіць мець прэзэрватывы! СНІД, маўляў, ня сьпіць.

Мэдычная частка ўключае заняткі па аказаньні першай мэдычнай дапамогі. Веды, у прынцыпе, ня лішнія. Але прафэсійныя мэдыкі кажуць, што ў білетах багата памылак і першую дапамогу вучаць рабіць шмат у чым няправільна. Нонсэнс!

## Рэальнасьць

У нашай групе палова курсантаў была студэнцкага ўзросту. Адзначаецца амалажэньне навучэнцаў, а таксама штогадовае павелічэньне колькасьці дзяўчат, якія хочуць атрымаць правы.

***І апошняе: усё ў нашым жыцьці можна прадаць і купіць. Тонкі намёк!***

Шмат хто казаў, што ніколі ў жыцьці так не вучыў: дома, на працы, за сьнеданкам, у транспарце, абмяжоўваючы нават (які жах!) асабістае жыцьцё.

Школу можна заканчваць у любым пункце краіны, але здаваць будзеце па месцы прапіскі. У Менску здаваць цяжэй. Тут усё кампутарызавана (вось яны, мінусы прагрэсу!), тады як у іншых месцах стаяць нейкія машыны "Вяткі", на якіх здаваць значна прасьцей, бо толькі адзін адказ зь пералічаных будзе правільны. На кампутары можа быць дзевяць варыянтаў адказаў, прычым шмат дзе трэба ведаць пасьлядоўнасьць дзеяньняў, пералічаных у адказах.

## Іспыты

Іх у вас будзе як мінімум чатыры. Два - па сканчэньні школы: тэорыя і практыка, і такія ж два ў ДАІ.

Тэарэтычная частка - гэта білет, які складаецца зь дзесяці пытаньняў: дзевяць - па правілах дарожнага руху, і апошні - па мэдыцыне, бясьпецы руху, адміністрацыйнай ці крымінальнай адказнасьці кіроўцы за парушэньні. Пастаянна цыркулююць чуткі, што існуе магічнае спалучэньне клявішаў на кампутары, якое дапамагае здаць у ДАІ. Магчыма, яно й так, але нешта не чуваць, каб нехта так здаваў.

Іспыты па кіраваньні праходзяць нэрвова, бо за восем хвілінаў трэба заехаць у гараж, прыпаркавацца заднім ходам і прайсьці эстакаду. Потым экзамэнатар прапануе ехаць у горад.

І толькі калі ўсё будзе пройдзена - калі вы ўрэшце знойдзеце агульную мову зь "міліцэйскім" кампутарам, калі колькасьць пераехаых мінакоў будзе раўняцца нулю і на новенькім пасьведчаньні побач з вашым шчасьлівым тварам зьявіцца акуратная пячатка - толькі тады вы зможаце пачувацца сапраўдным кіроўцам. Па шчырасьці, у мяне гэтае адчуваньне яшчэ наперадзе...

## Прыкметы

Калі чалавек здаў усе іспыты, нельга падымаць тост за пасьведчаньне - не пашчасьціць на дарозе.

Прафэсійныя інструктары чамусьці сьцьвярджаюць, што калі асоба мужчынскага полу не здае на правы да 25 гадоў, дык у яго ня ўсё ў парадку з галавой.

Сярод кіроўцаў існуюць свае правілы. Самае галоўнае - міргнуць фарамі машыне, якая едзе насустрач, папярэджваючы, што дзесьці побач схаваліся даішнікі. Правіла дзейнічае і ў заходніх ад нас славянскіх краінах, а вось заможная Эўропа вас не зразумее.

Яшчэ адно правіла - як мага далей збочваць ад пачаткоўцаў і жанчын за рулём (дыскрымінацыя па ўзроставай і полавай прыкмеце). Пачаткоўцы бачныя па знаку "У", а некаторыя жанчыны вешаюць на свой самаход адмысловы значок з намаляваным чаравічкам на высокім абцасе. Хочуць вылучыцца?

## Слэнг аўтааматараў

**Знак "У"** ("учебный") расшыфроўваецца як "убийца" (вельмі чорны гумар).

**Знакі "Паварот налева забаронены"** і **"Рух улева забаронены"** маюць сярод аўтамабілістаў назоў "Жонка не пушчае".

**Чароўная палачка** - жазло рэгулёўніка.

**Здаровы аўтамабіль** - цэлы, новы і прыгожы самаход.

**Хворы аўтамабіль** - біты; які трапляў у аварыю.

**Сьляпы зьезд** - не абазначаны паказальнікам зьезд з дарогі.

**Японка** - машына з правым рулём.

**Ластаўка** - кля-я-ясная машына!!!

**Яздок і язьдзюк**. Адрозьненьні - у стылі й якасьці кіраваньня.

**Шумахерыць** - вельмі хутка езьдзіць (прывітаньне Міхаэлю і Ральфу!).

**ДАІ** - паходзіць ад слова "даіць". Вельмі прыбытковая гэта прафэсія...







# Балтыйская Летняя Школа-2002

**Твае асацыяцыі на слова "Латвія"?
Рыскі бальзам, Лайма Вайкуле&Раймонд Паўлс, "го-ря-чие латышские парни" і, вядома, бурштын - вось, бадай, стандартны набор асацыяцыяў сярэднестатыстычнага беларуса. Фанаты гендэрных дасьледаваньняў і фэміністкі з асалодай узгадаюць Вайру Віке-Фрайбэрг, латыскую лэдзі-прэзыдэнта. А палітычна падкаваныя асобы прыпомняць пэрманэнтную "вайну" латышоў з расейцамі з-за адсутнасьці здольнасьцяў да паліглоцтва ў былога "старэйшага брата". Карацей, на гэтым твае асацыяцыі могуць і скончыцца, калі ты таго хочаш. Калі не - чытай далей.**

Міжнародная Балтыйская Летняя Школа-2002 - магчымасьць трапіць на тры тыдні ў маленькую, але вельмі ганарлівую рэспубліку Латвію.

Балтыйская школа месьціцца ў Відзэме, што на поўначы Латвіі. Прэзэнтуе праект Vidzeme University College. Каля 125 студэнтаў з 25 краінаў сьвету штогод бяруць удзел у працы Школы. Там ты зможаш сустрэць студыёзусаў з Аўстраліі, Францыі, Злучаных Штатаў, Японіі, Фінляндыі і нават Кыргызстану.

Міжнародная Балтыйская Летняя Школа сёлета ўжо чацьверты раз ладзіць асьвету ў наступных накірунках:

- Палітыка. Палітыка балтыйскіх краінаў, паўночна-эўрапейскіх і замежных дзяржаў, расейская палітыка ў балцкім рэгіёне, зьнешняя палітыка маленькіх краінаў, а таксама "любімы мазоль" - савецкі life-style і тэорыя акупацыі.
- Балтыйская эканоміка і права.
- Гісторыя і філязофія. Зразумела, мясцовая і ў розных варыяцыях - гісторыя нацыянальных меншасьцяў, women's history etc. Але ня толькі. Маюцца ў наяўнасьці асаблівасьці гісторыі і культуры ліваў - нашчадкаў фіна-уграў, што жывуць у Латвіі. Дарэчы, ажно 20 чалавек актыўна размаўляюць на сваёй мове, якая прапаноўваецца для вывучэньня падчас гэтага курса лекцыяў. Таксама ёсьць пруская гісторыя, культура і мова.
- Культура. Сюды ўваходзяць балтыйскі фальклёр, музыка і мастацтва, а таксама - стравы і напоі! Як абяцае каталёг курсаў, заняткі па гэтай дысцыпліне павінны адбывацца шляхам практычнага засваеньня і экспэрымэнтаў. У праграму ўключаныя наведваньні рэстарацыяў і "ежа-напойных" вытворцаў.
- Mass-media.
- Вандроўкі і геаграфія.
- Мова і літаратура. Міжнародная Балтыйская Летняя Школа прэзэнтуе магчымасьць вывучыць латыскую мову на трох узроўнях - ад элемэнтарнага засваеньня альфабэту і мінімальнага лексыкону, каб наступным разам ты змог разабраць ня толькі інтэрнацыянальныя tanks ці bolsieviks, але і ня зблытаць zakis з kakis (зайца з коткай, а ня тое, пра што вы падумалі), да самага прасунутага, так бы мовіць, узроўню балтафоніі. Апроч таго - летувіская і эстонская мовы для пачаткоўцаў.

Працоўнай мовай усіх лекцыяў зьяўляецца ангельская.

Спасьціганьне навукі заплянаванае на пэрыяд з 6 па 28 ліпеня 2002.

Навучаньне разам з дахам над галавой і сьняданкам каштуе 810 умоўных амэрыканскіх адзінак (у валюце аб'яднанай Эўропы - 940 EURO). Але ёсьць і халява. Калі ты абіраеш 3 і больш курсаў, у цябе ёсьць рэальны шанец прэтэндаваць на стыпэндыю: хочаш - ад Відзэмскага ўнівэру, хочаш - ад Міністэрства адукацыі Латвіі. Стыпэндыя пакрывае навучаньне, апартамэнты і дзьве ўікэнд-экскурсіі. Вандроўкі па Латвіі складаюць частку адмысловай культурніцкай праграмы. Для асабліва прагных - ваяжы ў Эстонію ці Летуву, але гэта ўжо за асобную плату.

**Непасрэдныя кантакты з прадстаўнікамі Міжнароднай Балтыйскай Летняй Школы:**

**Cesu iela 4
LV-4200 Valmiera
LATVIA**

**Тэлефоны: (371) 42 07230
Факс: (371) 42 07 229
E-mail: biss@va.lv
Net: www.va.lv/biss**

**Да таго ж, у Менску ёсьць адмысловы прадстаўнік да-дзенай праграмы. Каардынаты:
Тэл. (017) 239 31 17
Факс. (017) 232 27 43
E-mail: Yic@bsa.org.by**

**P.S.** Пры намеры самастойна зарганізаваць свой удзел - пасьпяшайся з заяўкай і рэкамэндацыямі! Дэдлайн - 15 сакавіка. Праз мясцовых каардынатараў - тэрмін падоўжаны



# Камп-курсы ў ЭГУ

**У сучасным сьвеце ўсё трымаецца не на чэсным слове, а на кампутарных тэхналёгіях. Усё - ад прыватнай абвесткі да плённай працы ЦРУ - знаходзіцца ў наўпроставай залежнасьці ад гары жалеза ў плястыкавым корпусе. У нашу эру немаўляткі распраўляюцца з клявіятурай з такім імпэтам, зь якім вы ў глыбокім дзяцінстве ляпілі "пірозівы" ў дзятсадаўскай пясочніцы.**

Таму на парадку дня - усеабдымны кампутаровы лікбез

Галоўнае ў гэтай справе - вырашыць, як арганічна сумясьціць ангельскае "time is money" і саўковы пэрл "без бумажки ты букашка". Адно з выйсьцяў - сьвежанькія прапановы ад Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту. Летась там адчыніўся і разгарнуў бурлівую дзейнасьць унікальны факультэт інфармацыйных тэхналёгіяў - адзінае, дарэчы, месца ў Беларусі, дзе студэнты могуць атрымаць поўную пяцігадовую адукацыю па спэцыяльнасьці "WEB-дызайн і кампутарная графіка".

**Прапанова №1.** Кароткія курсы падвышэньня кваліфікацыі, колькасьць якіх у разабраным "па костачках" выглядзе дасягае 50. Тэрмін навучаньня - ад 2 дзён да 5 тыдняў.

Сярод прапанаваных кірункаў асьветніцкай дзейнасьці:

- кампутар для імбрыкаў, то бок з нуля. Самае асноўнае ў Windows, Word, Excel, Microsoft Outlook і Microsoft Power Point. Ну і, зразумела, што такое Internet і як змагацца з электроннай поштай.
- Internet і web-тэхналёгіі. Усё ад web-мастэрынгу/маркетынгу да Internet у электронным гандлі. JavaSript і Macromedia Flash 5 таксама не абдзеленыя ўвагай.
- Для аматараў працягнуць сьвятую справу Дыснэя ёсьць курсы анімацыі любых узроўняў. Гучыць гэта ўсё да жудасьці нетаварна - 3D-MAX 4.0. Затое выглядае на пяцёрачку - узяць хаця б казачку пра трусіка Роджэра! Акрамя гэтага - кампутарная графіка і дызайн. Натуральна, Photoshop, CorelDraw, Adobe Illustrator чакаюць сваіх герояў.
- Праграмаваньне на мове C і C++. Таксама вас навучаць віртуозна кіраваць базамі дадзеных пры дапамозе Access (парадкавы нумар 2000).

Маецца і адмысловая нізка прафэсійна скіраваных курсаў. Аматараў данесьці да масаў свае ідэі шляхам уласнаручна створаных СМІ чакаюць у ЭГУ ў поўнай баявой гатоўнасьці. Амыслова для іх - выдавецкі комплекс 3 in 1 - PageMaker, Photoshop, CorelDraw. Акрамя гэтага - спэцкурс "Дызайн і паліграфія" ды "Кампутар для юрыста".

**Прапанова №2** - "доўгаграючая". Калі вы марыце ня толькі ашчасьлівіць які-небудзь "Барысаўдрэў" старонкай у Нэце, а развавеце свой жавальна-глытальны орган як мінімум на .edu, а то і на .gov - гэта інфармацыя для вас. Праграма прафэсійнай перападрыхтоўкі "WEB-дызайн і кампутарная графіка". За 46 тыдняў - дыплём дзяржаўнага ўзору з кваліфікацыяй "праграміст" у вас у кішэні. Курс уключае як агульнапрафэсійныя дысцыпліны, безь якіх не бывае праграмістаў (Macromedia Flash 5, Photoshop, CorelDraw etc), так і спэцзанняткі, што непасрэдна тычацца спэцыяльнасьці (JavaSript; зразумела ж, web-дызайн і тэхналёгіі стварэньня web-сайтаў).

Навучаньне складае 3 сэмэстры - 12, 22 і 12 тыдняў кожны. Кошт - 1200 умоўных адзінак за ўвесь курс.

**Сьпяшайцеся!** Групы набіраюцца толькі на працягу сакавіка. Наступны заход - у кастрычніку.

**Як патрапіць?
Прыйсьці: Менск, вул. П. Броўкі, 3а, пакой 235 ці 239.
Патэлефанаваць: (017) 284 06 98, факс (017) 206 63 66
"Намыліць": gorelik@ehu.unibel.by**

# ТНК - фота - конкурс

**Прапанова ад Theodor-Heuss-Kolleg.
Зьвяртаем увагу тых, хто здольны трымаць у руках фотаапарат і ў патрэбны час націскаць на патрэбныя пімпачкі. Theodor-Heuss-Kolleg (Нямеччына) прэзэнтуе фотаконкурс. Прычым абсалютна бескаштоўны - ніякай платы за ўдзел, ніякіх блянкаў заявак. Удзельнічаць могуць як супэрпрофі, так і аматары. Карацей - усе, каму ня церпіцца паказаць сьвету вынікі сваіх стасункаў з аб'ектывам.**

Тэма конкурсу - "Дапамога - як я яе бачу". Праклямуецца поўная свабода выяўленьняў - ад экстазу толькі што пераведзенай праз дарогу бабулькі да ўдзячнай за Whiskas коткі. Мэта канкурсанта - данесьці да нямецкіх масаў сваё бачаньне гэтай тэмы. У праекце бяруць удзел 13 краінаў - Аўстрыя, Беларусь, Вугоршчына, Грузія, Латвія, Летува, Нямеччына, Польшча, Расея, Славакія, Украіна, Чэхія і Эстонія. Грамадзкасьць гораду Бэрліну абярэ 13 найлепшых здымкаў. Фоташэдэўры будуць апублікаваныя ў насьценным календары, геаграфіяй распаўсюду якога і станецца краіны-ўдзельніцы конкурсу. А пераможцаў чакаюць спэцыяльныя прызы ад журы.

Ад цябе - ня больш за 3 каляровыя альбо чорна-белыя фоткі фармату 13х18, 15х21 або 18х24. З падрабязным подпісам з адваротнага боку: назоў шэдэўру, характарыстыка "ахвяраў аб'ектыва", імя і месца жыхарства аўтара з усімі каардынатамі.

31 сакавіка 2002 - поўны deadline. Так што сьпяшайся здабыць славу на прасторах Эўропы!

**Дадатковую інфармацыю можна атрымаць, "памыліўшы" на kalender2003@theodor-heuss-kolleg.de
Для віртуозаў дыяфрагмы і геніяў успышкі паведамляем адрас для допісаў:
Аляксей Ціхаміраў
Вул. Трэфалева 14/4
150 000 г. Яраслаўль
Расея
(з пазначкай "Фотаконкурс" на карпэце)**

***Грузіла і цiснула на сумленьне Дар'я Сітнікава***

# Супраць лому няма прыёму
## Першыя крокі да самаабароны

**Ні, шаноўны чытач! На жаль, бесьперапыннае сядзеньне ў нэце і сьвяты ўпярэмешку зь інфэкцыямі ня лепшым чынам паўплывалі на мае бэлетрыстычныя здольнасьці, таму мінулы нумар быў без майго артыкулу. Але, спадзяюся, ад гэтага нашая сустрэча стала яшчэ больш чаканай. Аднак пачнем размову. Як вядома, супраць кожнай атакі ёсьць нейкая ахова. Што ж нас можа абараніць ад злосных хакераў, што жадаюць пралезьці ў таямніцы нашага кампутара? Варыянты адказу: лом, фаервол, бронекамізэлька, шлем. На дапамогу залі і званок да цешчы разьлічваць не даводзіцца, таму будзем гуляць сваімі сіламі...**

Правільны адказ - фаервол (ангельскае firewall), альбо, можна яшчэ сказаць, сеткавы экран, брандмаўэр. Вядома ж, кожны названы панятак мае свае асаблівасьці, але, у прынцыпе, абазначаюць яны адну рэч - вартаўніка, што стаіць на ахове кампутара. Таму, каб засьцерагчыся ад незаконнага пранікненьня ў кампутар, паставіць такую прогу проста неабходна. Тут мы разгледзім найбольш ужывальныя праграмы, асноўныя мэтады іхнае працы й настройкі. Тваёй увазе я прапаную тры фаерволы: ZoneAlarm Pro, Sygate Personal Firewall і Agnitum Outpost Firewall. Кожныя мае свае асаблівасьці, як у характары працы, так і ў настройках, аднак прынцып працы ў іх падобны, таму, каб паберагчы твае мазгі, спыняцца на кожнай паасобку мы ня будзем - замест гэтага разгледзім усе адразу.

### Прынцып працы

Фаервол закліканы абараняць кампутар ад усялякага роду атак, а гэтаксама праграмаў і скрыптоў, што могуць зьбіраць пэрсанальныя дадзеныя без твайго жаданьня. Лягічна, што фаервол працуе ў якасьці шлюза паміж сеткай і кампутарам. Калі дадзеныя накіроўваюцца ў кампутар, фаервол іх правярае. У залежнасьці ад настроек, ён прапускае толькі тое, што дазволена, а ўсё астатняе - блякуе. Вядома, каб настроіць фаервол адпаведным чынам і дабіцца максымальнага эфэкту, трэба прыкласьці нямала намаганьняў, аднак самае галоўнае, што, нават ня маючы вялікіх ведаў у галіне сеткавай бясьпекі, з дапамогай фаервола можна значна яе (бясьпеку) узмацніць.

### Выбар праграмы і ўсталяваньне

Пачнем з даставаньня праграмаў. Пачаткоўцам я раю ставіць Agnitum Outpost Firewall (http://outpost.agnitum.com/). Дадзены прадукт мае расейскую вэрсію інтэрфэйсу (калі кагосьці гэта ўсьцешыць). Да таго ж, ён максымальна просты ў эксплюатацыі і бясплатны (хоць і ў абмежаванай вэрсіі). Наступнай праграмай у маім сьпісе рэкамэндацыяў стаіць Sygate Personal Firewall (http://www.sygate.com/products/sygate_spf.htm). Яна больш складаная для настройкі, але для прыватнага карыстаньня гэтаксама бескаштоўная. Ну і, нарэшце, апошняя - ZoneAlarm Pro (http://www.zonelabs.com/). Яна зьяўляецца самай папулярнай і, зрэшты, даволі надзейнай, хаця не безь "дзірак". Што тычыцца набыцьця праграмы, то адразу скажу, што поўнафункцыянальная вэрсія - не бескаштоўная, аднак можна паставіць бясплатную, якая забясьпечвае базавую бясьпеку. Поўная Про-вэрсія каштуе блізу $29.95 (і гэта яшчэ са зьніжкай, а раней каштавала $59.90). Зрэшты, ня трэба адчайвацца - www.astalavista.box.sk нас заўсёды выратуе.




Карацей, праграма ў цябе ёсьць, якая - справа густу, хаця, шчыра кажучы, у мяне стаяць адразу 4 фаерволы (панты-с!), бо ніводны паасобку ня мае ўсяго неабходнага для працы. Што рабіць далей? А далей трэба яго (фаервол) заінсталяваць і настроіць. Думаю, з пунктам #1 складанасьцяў ня ўзьнікне, а вось да другой праблемы падыдзем больш сур'ёзна.

### Настройка доступу

Пачнем з простага: уваходзім у нэт, запускаем Эксплорэр ці што-там-у-цябе-стаіць і - як ты думаеш, што будзе? Правільна, фаервол спытаецца, што гэта за цуд прыроды спрабуе залезьці ў сеціва і ці пускаць яго туды. Кожная з праграмаў дазваляе рабіць настройку, уключаючы тып злучэньня (уваходнае, выходнае), порты для злучэньня (можна прызначыць адзін порт, групу портаў, прычым як з боку сэрвэра, так і з боку кліента - цябе). У выпадку з Эксплорэрам Outpost запрапануе стварыць стандартнае правіла для броўзэра, а гэта толькі і трэба простаму юзэру. Дзьве другія праграмы гэтаксама прапануюць настроіць правілы для доступу да сеткі, аднак стандартных правілаў у іх няма. Карацей, стаў "дазволіць заўсёды", і ўсё. Для тых, хто зь сеткамі "на ты", рэкамэндую дэталёва настроіць правілы. Гэта дадасьць клопатаў, але так будзе больш надзейна. Калі ты нічога ня ведаеш пра пратаколы й порты (ці ведаеш мала) - лепей ня лезь, бо пасьля без дапамогі прафэсіянала нічога не паправіш (безумоўна, калі не лічыць выйсьцем дэінсталяцыю праграмы). Ну, карацей, з Эксплорэрам разабраліся, пяройдзем да паштовага кліента. Тут можна дазволіць сабе і з портамі пагуляцца, бо на пошту ўжываюцца стандартныя порты - TCP 110 для pop3 і TCP 25 для SMTP (2525 для ТУТа).







Акрамя таго, я заўжды дазваляю падключэньне толькі да пэўнага сэрвэра, на якім і ляжыць мая пошта (прыкладам, толькі да mail.tut.by). У Outpost трэба ўказаць, што порты сэрвэра - толькі 110 і 25 (2525). Зрэшты, для TheBat! і Outlook там існуюць правілы. У двух астатніх фаерволах трэба зрабіць тое самае. А потым - паўтарыць усе гэтыя апэрацыі для кожнай праграмы, якая спрабуе выйсьці ў сусьветную павуціну ці, наадварот, залезьці ў кампутар. Галоўнае - не дагуляцца і не зрабіць нічога лішняга.

### Актыўны зьмест

Наступнае - актыўны зьмест. Гэта такія рэчы, як скрыпты, вокны Эксплорэра, што праз кожную сэкунду самавольна адчыняюцца, файлы кукі і г.д. Што гэта ўсё такое і чым яго закусваць? Элемэнты ActiveX і Java-аплеты, як, зрэшты, і розныя сцэнары ды скрыпты - гэта праграмаваньне для старонак. Аднак уся праблема ў тым, што гэтыя элемэнты могуць, карыстаючыся дзірамі ў рознага кшталту праграмах, асабліва ў Эксплорэры, рабіць розныя шкодна-непатрэбныя рэчы. Каб пазьбегчы небясьпекі і адначасова не згубіць таго прыгожага і карыснага, што падрыхтавалі распрацоўшчыкі сайтаў, рэкамэндую ставіць у настройках "запыт" - гэта значыць, што фаервол, перш чым запусьціць нейкі скрыпт ці элемэнт, спытае ў цябе, ці трэба гэта рабіць, і пакажа адрас скрыпта. Ну, а там усё ў тваіх руках... Вокны, якія адчыняюцца адвольна, рэкамэндую блякаваць, каб не было лішняга нэрвовага ўсплеску ад выгляду ня першай маладосьці дзяўчатак, што выдаюць сябе за тынэйджэрак... Файлы кукі - гэта такія штукі, якія адказваюць за аўтарызацыю: там захоўваецца пэрсанальная інфармацыя. Адключыўшы іх, ты зробіш немагчымай працу з большасьцю паштовых скрыняў у броўзэры - ну, скажам, са скрыняй на yahoo.

Вось, караценька, і ўсё, што для пачатку трэба ведаць фаервольнаму нэафіту. Калі ўзьнікнуць пытаньні па сеткавай бясьпецы - не лянуйся, кідай на мыла: xdemon@tut.by.

# МозгаЗАБІВАЛКІ. Прыватная КАЛЕКцыя

**Paranoid**

**...Іду па вуліцы, чытаю рэклямкі на слупах. Такое ўражаньне, што мяне трымаюць за дэбіла. Для паўнаты адчуваньняў купляю дзьве газэткі з аб'явамі. Уражаньне ўзмацняецца...**

ЛИШНИЙ ВЕС
ПРИЧИНА ВСЕХ БОЛЕЗНЕЙ
✓ ПРОДУКТ НА НАТУРАЛЬНОЙ ОСНОВЕ
✓ КАЧЕСТВО, ЭФФЕКТИВНОСТЬ
✓ ПОЛНЫЙ КОНТРОЛЬ СПЕЦИАЛИСТА
КОНСУЛЬТАЦИЯ БЕСПЛАТНО

**#1. Хваробавыклікалка** (зьдзёр са слупа ў раёне вул. Чкалава)
"Харошы" такі прадукт пад назвай "Лишний вес". Набудзь сабе трохі лішняе вагі, і ўсе хваробы зьявяцца ў цябе самі сабой. "На натуральнай аснове"? Ага, значыцца, у некага гэтую лішнюю вагу адабралі і цяпер нажываюцца!

ВЫ ЧУВСТВУЕТЕ ПОСТОЯННУЮ УСТАЛОСТЬ?
У ВАС БОЛИТ ГОЛОВА?
Если еще не потеряли интереса к жизни, звоните - мы поможем.
Бесплатная консультация специалиста

**#2. Сасьветузжывалка** (зьдзёр з дошкі аб'яваў на Залатой горцы)
"Не згубілі яшчэ цікавасьці да жыцьця? Мы вам дапаможам!" Гучыць, праўда?

С НОВОЙ ФИГУРОЙ В НОВОМ ГОДУ!

**#3. Фігурамянялка** (зьдзёр у пераходзе каля Камароўкі)
Адно з двух: альбо гутарка ідзе пра радыкальную перасадку органаў, альбо пра прыхаваную палітрэкляму.

ВАМ нужен ГАРАЖ
в микрорайоне УРУЧЬЕ-6
с подвалом по периметру или без подвала?
Мы строим, обращайтесь к нам. Цены ниже рыночных.

**#4. Зхатывыганялка** (выразаў з газэціны)
"Вам патрэбны гараж!" Гэта не пытаньне, гэта - дыягназ. Ці то ў звычайную кватэру вы ўжо проста ня ўлазіце, ці то газуеце, як сапраўдны аўтамабіль. У абодвух выпадках - у гаражы вам самае месца. Тым болей, што вясна ўжо, ня зьмерзьнеце. Адно што трэба тэрмінова вызначыцца: вам падвалам па пэрымэтры ці пэрымэтрам па падвале?

ВРЕМЯ МЕНЯТЬ МЕБЕЛЬ!
принимаем и реализуем
• МЕБЕЛЬ (корпусная, мягкая, кухонная и т.д.)
• ХОЛОДИЛЬНИКИ
• ТЕЛЕВИЗОРЫ
• ХОЗЯЙСТВЕННЫЕ ТОВАРЫ

**#5. Мэблемянялка** (з той жа самай газэціны)
Увага на словы "прымаем і рэалізуем". Добры ўзор колазвароту мэблі і гаспадарчых тавараў у прыродзе.

ЮРИДИЧЕСКАЯ ФИРМА
ЛИКВИДАЦИЯ
БАНКРОТСТВО
НАЛОГОВОЕ ПЛАНИРОВАНИЕ
ОФФШОРНЫЕ КОМПАНИИ
консультации
РЕГИСТРАЦИЯ
РЕОРГАНИЗАЦИЯ
в РБ, Литве, ЕС, США
содействие

**#6. Ліквідавалка** (зь іншай газэціны)
Што характэрна, на першых месцах у сьпісе паслуг юрыдычнай фірмы стаяць "ліквідацыя" і "банкруцтва". Доктар, а можа, у рэанімацыю?

**#7. Кейсамадэрнізавалка** (адна з паслугаў па эміграцыі)
Чым ім звычайныя драўляныя "кейсы" не падабаюцца? Добра хоць, што "індывідуальна", а ня ў братняй магіле... Інтэрвію, як вы ўжо зразумелі, будзе, як мінімум, са Сьвятым Пётрам.

ПОДГОТОВКА К ИНТЕРВЬЮ ИНДИВИДУАЛЬНО
ДЛЯ КАЖДОГО В МОДЕРНИЗИРОВАННЫХ КЕЙСАХ



СТРАХАВАЯ КАМПАНІЯ
АльВеНа

| | |
|---|---|
| досьвед працы 10 год | больш за 20 відаў страхаваньня |
| сотні тысяч кліентаў | філіялы ў Менску і |
| спэцыялісты высокае клясы | абласьцях Беларусі |

Разам з Вамі мы клапоцімся
пра ваша здароўе, дом, маёмасьць, аўтамабіль
у Беларусі і за мяжой



АльВеНа - это реАльная уверенность в Настоящем.

| | |
|---|---|
| горад | Менск |
| вуліца, дом | Маякоўскага, 14 |
| тэлефон | (017) 210-28-36 |
| вуліца, дом | Ф.Скарыны, 164 |
| тэлефон | (017) 202-91-37 |
| e-mail | root@alvena.by |
| internet | http://www.alvena.by |

Ліц. №000132 ад 30.04.1999; №000527 ад 07.09.2001; №000548 ад 19.09.2001; №000422 ад 02.04.2001

## Па просьбах працоўных – падпіска!

**Каб падпісацца на "CD", трэба:**
- **запоўніць абанэмэнт;**
- **паштовым пераводам пералічыць адпаведную суму на разьліковы рахунак рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка": 3012210040010 Сталічнае аддзяленьне АКБ "БелБізнэсБанк", г. Менск, код 112;**
- **запоўнены абанэмэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе даслаць па пошце ў рэдакцыю: Менск–30, 220030, а/с 90.**

**Умовы:**
- **абанэмэнт трэба даслаць да 10–га любога месяца, каб атрымліваць часопіс з наступнага месяца;**
- **падпісацца можна на адзін, тры ці шэсьць месяцаў;**
- **кошт падпіскі на месяц – 400 рублёў.**

**І болей не закідвайце рэдактарскі пэйджэр пытаньнямі пра падпіску!**

Центр Культурных Обменов




АГЕНТСТВО НЕ ДЛЯ БАБУШЕК И ДЕДУШЕК

WORK & TRAVEL USA



уладальніку гэтага купона 30 у.а. зьніжка

Сурганава 47
(Інтэрнат БДПА)

202 00 81
231 16 93

Ліц. #925 ад 11.12.2000 да 11.12.2005

РЭСПУБЛІКАНСКІ ЦЭНТАР
КАНТАКТНАЙ КАРЭКЦЫІ ЗРОКУ
"БЕЛОФТООПТИКА"

КАНТАКТНЫЯ ЛІНЗЫ
*АЙЧЫННЫЯ І ІМПАРТНЫЯ*

СРОДКІ ДОГЛЯДУ ЗА ЛІНЗАМІ
*ШЫРОКІ ВЫБАР*

*вул. Сурганава, 54 ............... 232-51-94*
*пр. "Известий", 3 ............. 270-20-47*
*вул. Броўкі, 7........................ 232-25-27*

СТУДЭНТАМ І ШКОЛЬНІКАМ - ЗЬНІЖКІ

КАНСУЛЬТАЦЫІ ПА ПРАФІЛАКТЫЦЫ ХВАРОБАЎ ВАЧЭЙ
231-48-22

Ліц. №16 ЛТ ад 24.12.1999 да 24.12.2004





ОЛИМП

Божественный выбор

ВЦ "ОЛИМП", г.Менск, вул.Я.Коласа, 3

